# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для **4** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне,
выпраўленае і дапоўненае

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:
**Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба**

Р э ц э н з е н т:
заг. лабараторыі пачатковай адукацыі Навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, д-р пед. навук, дац. *І. І. Паўлоўскі*

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

— правіла;

• — дадатковае заданне да практыкавання;

 — падказка слоўніка

ISBN 978-985-559-263-2 (ч. 1)
ISBN 978-985-559-262-5

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў 3 КЛАСЕ

## ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ І ЗЫЧНЫХ




**1.** Прачытайце. Якія літары галосных гукаў прапушчаны ў словах?

Бацькі мае пр..вучалі нас шанаваць усё ж..вое.

— Не тапч.. травіцы, хадзі сцеж..чкай. Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена к..роўкам.

— Асцярожна рві яблыкі — не паламай галінкі. На паламаным суку не будзе яблыкаў.

— Напрасткі праз ж..та не хадзі. Ты патопчаш нагамі хлеб. *(Паводле У. Дубоўкі)*

- Якія літары галосных гукаў пішуцца пасля ***ш, р, ч***?



*Напрасткі́* — рус. *напрямик*.

**2.** Прачытайце. Якая літара прапушчана ў словах? Растлумачце яе правапіс.

### Ласы кот

Дзеці на б..розе прыладзілі шпакоўню. В..сной прыл..целі шпакі. Хутка ў шпакоў вывеліся пушыстыя шпачаняты.

За шпакоўняй пільна сачыў кот.

Аднойчы ласун палез на дрэва. Птушкі дружна нал..целі на злодзея. Спалохаўся кот і ўцёк. *(П. Паўлаў)*



*Пі́льна* — уважліва (рус. *пристально, зорко*).

- Спішыце першыя тры сказы, устаўляючы прапушчаныя літары.
- Падкрэсліце дзейнік адной рыскай, выказнік — дзвюма.

**3.** Прачытайце, устаўляючы замест пытанняў патрэбныя словы. Назавіце ў тэксце словы з падоўжанымі гукамі. Растлумачце іх правапіс.

Паспелі суніцы. Дзяўчаткі з (я к і м?) Петрыкам адправіліся ў падарожжа. Яны ішлі па сцежцы праз (ш т о?). Збоку (я к?) шапацела калоссе. Дзеці ўброд перайшлі (ш т о?). Вось і лес. Колькі тут (я к і х?) чырвоных ягад! Хутка дзяўчаткі назбіралі (я к і я?) гарлачыкі. А ў Петрыка яшчэ мала. З'еў хлопчык свае (ш т о?). Тады Петрык (ш т о з р а б і ў?). Ён (ш т о з р а б і ў?) шышак пад ягады, і ў яго стаў (я к і?) збаночак. *(Паводле П. Паўлава)*

Словы для даведкі: *жыта, маленькі, рачулка, ціха, поўныя, духмяныя, суніцы, пакласці, схітрыць, поўны.*



*Гарла́чык, збано́чак* — рус. *кувшинчик.*

**4.** Прачытайце ўслых. Старайцеся дакладна перадаць інтанацыю клічных сказаў.

Вечарамі дзьмуў ве**ц**ер. Нас**ц**ечка слухала шум клёна каля акна. Клён быццам расказваў ёй нешта **ц**ікавае, важнае і патрэбнае. Колькі ўсяго на све**ц**е многа! І як добра жы**ць** сярод усяго гэтага! Увосень слаўна чака**ць** першага снегу, а зімой — першай травы. І як радасна ўбачы**ць** першы зялёны лісток на дрэве! *(Паводле К. Чорнага)*

- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.
- Спішыце першыя тры сказы. Падкрэсліце ў іх дзейнік і выказнік.

**5.** Прачытайце. Вызначце, якія літары прапушчаны, і растлумачце іх правапіс.

### Навучыліся плаваць

1. Надакучыла нам гэта, і запісаліся мы ў секцыю плава..я.
2. А мы з Тамарай стаім на беразе і толькі ўздыхаем.
3. Дзень быў сп..котны.
4. Спярша ў нас усё не ла..ілася.
5. Усе хлопчыкі і дзя..чаткі кінуліся ў р..чку.
6. А мінуў месяц і адчулі мы сябе сапра..ды як рыбы ў ва..е.

- У якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся тэкст? Запішыце тэкст, які ў вас атрымаўся.



**6.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах?

Некалі я любіў гля..ець з В..лікай гары на сваю вёску. З краю яе расла тады высокая таполя. Яе в..рхавіна пач..нала паказвацца амаль што з палавіны гары. Далей з вуліцы вызіралі яшчэ таполі. Над адной з іх, пас..род вёскі, часта кружы..ся бусел. *(Паводле А. Кулакоўскага)*

- Спішыце. Падкрэсліце ўстаўленыя літары.

## НАПІСАННЕ СЛОЎ З РАЗДЗЯЛЯЛЬНЫМІ ЗНАКАМІ

**7.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

Зычны і галосны могуць раздзяляцца гукам **[й]**: *з'еў, аб'ява, надвор'е*. На пісьме гэта абазначаецца раздзяляльнымі знакамі — апострафам *(')* і літарай ***ь***.



Апостраф — надрадковы знак, які дапамагае літарам абазначаць гукі.

Апостраф пішацца пасля зычных перад галоснымі ***е, ё, і, ю, я***: *надвор'е, з'ехаў, пад'ём, вераб'і, б'ю, сям'я*.

Раздзяляльны ***ь*** пішацца пасля літары ***л*** перад галоснымі ***е, ё, і, ю, я***: *мільён, Ільін, **лью***.

- Што такое апостраф? Для чаго ён патрэбны ў беларускай мове?
- Якія дзве ролі выконвае літара ***ь***?
- Калі пішацца апостраф?
- Калі пішацца раздзяляльны мяккі знак?

**8.** Прачытайце прыказкі. Растлумачце, як вы разумееце іх сэнс?

1. Адным гарбузікам не пад'ясі, а расінкаю не нап'ешся.
2. Адным канём усё поле не аб'едзеш.
3. Прыгожая птушка пер'ем, а чалавек вучэннем.
4. У няўдалай Дар'і заўсёды аварыі.
5. Напалоханая варона і вераб'я баіцца.

- Выпішыце словы з апострафам. Растлумачце яго напісанне.
- У якой прыказцы гаворыцца пра тое, што чалавеку цяжка жыць і працаваць аднаму, без людзей?

**9.** Разгледзьце малюнкі. Назавіце тое, што намаляваў мастак. Запішыце словы, растлумачце іх напісанне.








**10.** Змяніце дзеясловы так, як патрабуе сэнс.

1. Хвалі набягаюць і *(біцца)* аб бераг.
2. Вожык і барсук падрыхтуюць на зіму норкі і *(забіцца)* у іх.
3. Хоць лякарства і горкае, але яго *(піць)*.

- Спішыце сказы, апускаючы дужкі.

**11.** Дапамажыце словам *пер'е — пяро, сям'і — сямі* знайсці сваё месца ў сказах.

1. Лёгкае ..., а на страху́ не закінеш.
2. У снегіра прыгожае ... .
3. Мой тата працуе з ... гадзін раніцы.
4. У нашай ... ўсе дапамагаюць адзін аднаму.

- Спішыце сказы. Падкрэсліце ўстаўленыя словы.

**12.** Спішыце. Устаўце замест кропак раздзяляльны ***ь***.

Сёння з хмар л..е халодны дожджык. Іл..я бярэ парасон, апранае плашч і ідзе ў школьную майстэрню. Там майстар Павел Васіл..евіч вучыць Іл..ю працаваць на такарным станку.

● Назавіце словы, у якіх ***ь*** абазначае мяккасць зычных гукаў.

**13.** Прачытайце. Якія ў гэтых дзяцей імёны па бацьку?

Бацьку *Антона* завуць *Анатоль*, бацьку *Марыны* — *Віталій*, а бацьку *Арцёма* — *Васіль*.

● Запішыце гэтыя імёны і імёны па бацьку па ўзоры. Падкрэсліце раздзяляльны ***ь*** разам з папярэдняй літарай ***л***.

У з о р. *Анастасія Савельеўна, Кірыла Савельевіч.*

**14.** Прачытайце тэкст. Якія раздзяляльныя знакі прапушчаны ў словах?

### Дружная сям'я

У Іл..і Лук..янава вялікая і дружная сям..я. Яго бацька, Андрэй Валер..евіч, працуе на трактарным заводзе. Маці, Дар..я Васіл..еўна, — паштал..ён. Акрамя Іл..і ў сям..і Лук..янавых яшчэ двое дзяцей.

Дачка Ул..яна вучыцца ў інстытуце. Сам Іл..я і яго малодшы брат Мікіта ходзяць у школу. *(П. Паўлаў)*

● Спішыце першыя тры сказы. Падкрэсліце літары, паміж якімі стаяць раздзяляльныя знакі.



**15.** Спішыце словы, устаўляючы патрэбны раздзяляльны знак.

Л..ецца, аб..ём, узмор..е, біл..ярд, пад..ём, вераб..і, батал..ён, з..елі.

## СКЛАД СЛОВА




**16.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Корань — самая важная частка слова. Каб вылучыць корань слова, трэба падабраць некалькі роднасных слоў і знайсці ў іх агульную частку: ***вуха*** — ***вуш****ка* — ***вуш****ны* — *на****вуш****нікі* — *за****вуш****ніцы;* ***стрэл*** — ***страл****ок* — ***страл****яць* — ***страл****яніна.* Некаторыя гукі ў корані могуць чаргавацца *(стрэл — стралок, вуха — вушка).*

● Як вылучыць корань слова?

**17.** Выпішыце роднасныя словы групамі, абазначце ў іх корань.

Зіма, вадаём, насільшчык, святло, асвятленне, зімаваць, зімні, падводны, насіць, зімоўка, вадзяны, пераносіць, вада, насілкі, свяціць, светлы.

**18.** Прачытайце. З дапамогай якой часткі слова ўтвораны новыя словы? Назавіце ў корані роднасных слоў гукі, якія чаргуюцца.

Луг — лужок, мост — мосцік, лес — лясок, нага — ножка, ціхі — цішыня, горад — гарадок, трава — траўка, рака — рачны.

- Спішыце словы парамі. Абазначце суфіксы.

**19.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце роднасныя словы. Запішыце іх парамі па ўзоры. Абазначце корань.

У з о р. *Казак* — *раскажа*, ... — ..., ... — ... .

Багата ў дзеда казак, як зор на небе, як красак на полі. Ён раскажа пра шчупака ў лясным возеры, які так сумаваў, што ўвесь **аброс** мохам. **Раскажа** дзядуля і пра мядзведзіху з медзведзянятамі, і пра бабра-дрывасека, і пра шэрую чаплю, што **заходзіць** у госці да жураваоў. А летам з лесу дзед **прыносіць** гасцінцы: шапку суніц, пазуху арэхаў ці звярушку жывую. *(Паводле М. Лынькова)*

- Выпішыце выдзеленыя словы. Абазначце ў іх прыстаўкі.

**20.** Разгледзьце малюнак. Якія зычныя пішуцца ў прыстаўках ***ад-, пад-, над-*** і ***аб-***?




**21.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары.

Па..крэсліць назоўнікі, на..кусіць яблык, а..капаць бульбу, а..казаць услых, па..паліць дровы, а..прасаваць кашулю, а..сушыць вопратку, а..плюшчыць вочы, па..кінуць мяч, на..піліць дошку, а..шыць футрам.

*услы́х*



*Фу́тра* — рус. *мех*.



**22.** Утварыце ад кожнага слова аднакаранёвы антонім з дапамогай прыставак ***пера-, пры-, раз-, вы-***. Запішыце антонімы парамі, абазначце прыстаўкі.

У з о р. *Недаплаціць — пераплаціць.*

Адлятаць — ..., адплысці — ...,
завязаць — ..., замарозіць — ...,
недаплаціць — ..., ускочыць — ... .

● Выберыце пару аднакаранёвых антонімаў і вусна складзіце з імі па аднаму сказу.

# ТЭКСТ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ ПРА ТЭКСТ




Паважаныя хлопчыкі і дзяўчынкі!

Вельмі рады сустрэцца з вамі яшчэ раз у багатай і слаўнай Краіне тэкстаў. Ці не забылі вы яе жыхароў?

**23.** Прачытайце наступныя сказы. Адкажыце, якіх слоў у іх не хапае. Спішыце, устаўляючы ў сказы патрэбныя словы.

1. Тэкст складаецца са … . 2. Усе сказы ў тэксце звязваюцца заўсёды па … і аб'ядноўваюцца агульнай … і асноўнай … . 3. Правільна аформлены тэкст павінен мець …, … і … . 4. Да тэксту можна падабраць … . 5. … патрэбны, каб раскрыць тэму тэксту ці яго асноўную думку.

Словы для даведкі: *пачатак, сэнс, тэма, канцоўка, загаловак, асноўная частка, сказ, думка.*

● Раскажыце, што вы ведаеце пра тэкст. Чым ён адрозніваецца ад паасобных сказаў? Расказ свой пачніце так: *Тэкст — гэта выказванне на пэўную тэму. Ён … .*

**24.** Прачытайце і вызначце, ці можна гэту групу сказаў назваць тэкстам. Калі нельга, растлумачце чаму.

1. Паўлік спалохаўся і пабег да бацькі. 2. Убачыў гэта чмель, падляцеў да вуха хлопчыка ды як загудзеў! 3. А матылёк тым часам уцёк ад яго. 4. Аднойчы Паўлік бегаў па лузе і лавіў матылька.

- Спішыце сказы ў такім парадку, каб у вас атрымаўся тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.
- У якой паслядоўнасці вы размясцілі сказы? Растлумачце чаму.

**25.** Прачытайце. Вызначце, колькі сказаў у гэтым тэксце.

Разляглася ў полі зіма, распусціла сівыя космы служаць зіме верныя слугі — калючы вецер ды пякучы мароз яны абодва сярдзітыя калючы вецер лісце з дрэў абтрос, траву ў полі высушыў пякучы мароз скаваў зямлю і рэчкі лядовымі аковамі адзін клопат у марозу ды ветру застаўся — вартаваць спакой матухны-зімы. *(А. Асіпенка)*

- Спішыце тэкст, правільна афармляючы пачатак і канец кожнага сказа.
- Адкажыце на пытанні да тэксту (вусна):
  1. Хто верна служыць зіме?
  2. Што зрабіў калючы вецер?
  3. Што зрабіў пякучы мароз?
  4. Які клопат у марозу ды ветру застаўся?

**26.** Прачытайце. Вызначце, пра што ідзе гаворка ў тэксце?

Жыў каля рэчкі ў алешніку лежабока гарнастай. Хатка яго пахілілася, дзверы не зачыняюцца, праз акно вецер свішча, а яму хоць бы што.

Бегла неяк ласка да рэчкі, бачыць, ля хаткі гарнастай ляжыць. Яна і кажа яму:

— Чаму ты гэтак сваю хатку запусціў? Аж глядзець на яе страшна. Давай дапамагу табе рамонт зрабіць.

— Без цябе абыдуся, — агрызнуўся на ласку гарнастай і на другі бок перавярнуўся.

— Ну, глядзі сам. Але ведай, што пад ляжачы камень вада не цячэ, — адказала ласка і далей сваёй дарогай пабегла. *(Я. Галубовіч)*

- У якім сказе фармулюецца асноўная думка аўтара? Вылучыце яе і запішыце.
- Які загаловак больш падыходзіць да гэтага тэксту:

1. Нечаканы адказ.
2. Лежабока гарнастай.
3. Другім дапамагай і пра сябе не забывай.



**27.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта не тэкст, а набор асобных сказаў.

Ён ледзь не вырваў з зямлі маладую бярозку. Аднойчы ноччу падняўся ў лесе моцны вецер. Дрэўца перагнулася цераз сцежку ды так і засталося стаяць.

Убачыў ён наперадзе бярозку, спыніўся. Спужаўся касы, павадзіў доўгімі вушамі і не пабег пад зялёную арку. Раніц**а**й бег па сцеж**ц**ы шэры заяц. *(Р. Ігнаценка)*

● Спішыце сказы ў такім парадку, каб у вас атрымаўся тэкст.

● Дайце тэксту загаловак.

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

## ТЭКСТ-АПАВЯДАННЕ І ТЭКСТ-АПІСАННЕ




**28.** Прачытайце.

Сярод тэкстаў ёсць браты.

Першы — тэкст-апавяданне.

Завецца ён так таму, што аб усіх падзеях расказваецца паслядоўна.

Яго змест складаецца з дзеянняў, якія ідуць адно за адным ці змяняюць адно другое.

Другі — тэкст-апісанне.

У ім апісваюцца прыметы і ўласцівасці прадметаў ці з'яў. Усё, пра што ў ім гаворыцца, існуе адначасова. Яго змест падобны да карціны мастака, толькі аўтар малюе не фарбамі, а словамі.

● Адкажыце на пытанні:

1. Якія асаблівасці мае тэкст-апавяданне?
2. Якія асаблівасці мае тэкст-апісанне?

**29.** Разгледзьце малюнак. Знайдзіце, дзе хто.




**30.** Прачытайце. Пра якія падзеі расказваецца ў тэксце? Ці можна назваць гэты тэкст апавяданнем?

Уцякала мышка ад коціка,
пагубляла мышка боцікі.
Ой, памерзлі ў бедненькай ножкі,
хворая ляжыць яна ў ложку.

*А. Бадак*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы. Якую ролю адыгрываюць яны ў тэксце-апавяданні?

**31.** Прачытайце. Пра што гаворыцца ў тэксце? Дакажыце, што гэты тэкст з'яўляецца тэкстам-апісаннем.

## Мухамор

Мухамор — дзіўны грыб. Стаіць сабе ў белай панчосе, такі чысценькі, нявінны. Чырвоны капялюш

задзёрты ўгару, насунуты на вочы. І заўсёды вакол яго спакой і мёртвая цішыня. *(В. Жукроўскі)*

● Выпішыце з тэксту прыметнікі. Якую ролю выконваюць гэтыя словы ў тэксце-апісанні?

**32.** Разгледзьце малюнкі.



● Якое агульнае пытанне можна паставіць да гэтых малюнкаў: *Што здарылася з Алесем*? ці *Які Алесь*?

● Які тэкст (апавяданне ці апісанне) можна скласці па гэтых малюнках? Як вы гэта вызначылі?




Да тэкстаў-апавяданняў звычайна можна паставіць пытанне *Што здарылася з ...?* А да тэкстаў-апісанняў — *Які прадмет?*

**33.** Складзіце апавяданне па малюнках з практ. 32. Раскажыце, што рабіў Алесь у лесе. Каго ён сустрэў на лясной сцяжынцы? Як закончылася гэта сустрэча?

Да апавядання, якое вы склалі, прыдумайце загаловак.

**34.** Прачытайце пачатак тэксту.

Дзяцел гэты называецца жаўна. Апрануты ён у чорнае апярэнне...



● Разгледзьце малюнак і прадоўжыце апісанне чорнага дзятла. Раскажыце, якога колеру яго галава? Які хвост? З чым можна параўнаць яго дзюбу? Дзе жыве чорны дзяцел? Чым корміцца? Чаму называюць яго лясным доктарам, ці крылатым Айбалітам?

**35.** Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні да яго.



1. Дзе сядзіць вавёрка?
2. Што яна трымае ў лапках?
3. Якія ў яе вушкі?
4. Якога яна колеру?
5. Якія ў яе вочкі?
6. Які ў ваверкі хвосцік?

● Адказы запішыце. Які ў вас атрымаўся тэкст — апісанне ці апавяданне? Растлумачце чаму.

**36.** Прачытайце тэксты-апісанні. Які з гэтых тэкстаў падобны да фатаграфіі, а які — да характарыстыкі?

1. Дзіўная гэта птушка — сава! Уся ў бура-карычневым пер'і. У вачах — жоўта-чырвоны агонь гарыць. Касцяны нос крукам. На лапах вострыя кіпцюры, ніводзін кот такіх не мае. *(З. Бяспалы)*

2. Воўк — люты драпежнік. Спрытны, нястомны і вельмі разумны. Нездарма ёсць прымаўка: воўка ногі кормяць. У пошуках здабычы ён здольны прабегчы за адну ноч дзясяткі кіламетраў. *(У. Ягоўдзік)*

● Пісьмова адкажыце на пытанне *Чаму воўка ногі кормяць?*

**37.** Прачытайце. Які тэкст (апісанне ці апавяданне) можа мець такі загаловак і такі пачатак? Растлумачце чаму.

### Як Андрэйка адпачываў

Раніцай у нядзелю тата сказаў:

— Нарэшце дачакаўся выхаднога дня. Прэч разлікі і папяровыя клопаты! Сёння я адпачываю. Праўда, адпачываю не проста так, а з карысцю.

— Як гэта можна адпачываць з карысцю? — здзівіўся Андрэйка.

— Пойдзем разам, убачыш, — адказаў тата.

**38.** Разгледзьце малюнкі і прадоўжыце апавяданне пра тое, як Андрэйка з татам адпачывалі.



● Якім уяўляеце вы сабе адпачынак з карысцю? Расказыце пра тое, што вы робіце ў час адпачынку.

**39.** Прачытайце.

### Два браты

У зялёным лесе, пад елачкай, жылі два браты-баравічкі. Яны былі вельмі падобныя адзін на аднаго. Шэрыя галоўкі і тоўсценькія ножкі. Толькі старэйшы брат быў высокі, а малодшы — каратыш.

Грыбы жылі вельмі дружна, але час бяжыць хутка. Старэйшы брат састарыўся. Цяжка яму стала стаяць.

І ён абапёрся на малодшага брата. Той пацярпеў дзянёк, другі, а потым забурчаў: «Я малады, прыгожы, мне жыць трэба, а ты сонца засланяеш».



Не вынес старэйшы брат крыўды і рассыпаўся. Лёгкім стала жыццё малодшага брата, але не надоўга. Хутка і ён пастарэў. Пачаліся цяжкія дні, а дапамагчы не было каму. *(У. Фёдараў)*

● Які гэта тэкст: апісанне ці апавяданне? Па якіх прыметах вы гэта вызначылі?




**Тэкст-апісанне і тэкст-апавяданне цесна звязаны паміж сабой і рэдка могуць абысціся адзін без аднаго. У казках, апавяданнях і аповесцях часцей за ўсё вы можаце сустрэць іх разам.**

**40.** Прачытайце яшчэ раз тэкст «Два браты» (практ. 39). Вызначце галоўных герояў тэксту. Як апісвае іх аўтар? Якую ролю ў тэксце адыгрывае апісанне? Выберыце адзін з адказаў:

1. Апісанне толькі ўпрыгожвае тэкст.
2. Апісанне дапамагае лепш зразумець змест тэксту.

● Вызначце асноўную думку тэксту. Запішыце яе ў сшытак.

**41.** Адкажыце на пытанні да тэксту «Два браты» (практ. 39).

1. Як жылі браты-баравічкі, пакуль абодва былі маладыя?

2. Што змянілася ў іх жыцці, калі старэйшы брат састарыўся?

3. Як пакрыўдзіў малодшы брат старэйшага?

4. Ці доўга працягвалася лёгкае жыццё малодшага брата? Што здарылася з ім потым?

● Перакажыце тэкст.



**42.** Прачытайце. Вызначце, які з гэтых тэкстаў — апісанне, а які — апавяданне. Дакажыце гэта.

1. Жыла-была дажджавая кропелька. Яна нястомна працавала. Капне з хмары на зямлю. Напоіць яе. А потым выпарыцца і зноў у паветра ўзляціць. Збяруцца такія кропелькі ў адно воблака і ападаюць дажджом. *(Паводле А. Кобец-Філімонавай)*

2. Возера Свіцязь радасна-задуменнае. Вакол берага звонкі салаўіны гай. Бярозы схіліліся над люстрам вады. Дуб раскінуў магутныя пакручастыя галіны. Лясістыя ўзгоркі акружаюць возера, таму яно заўсёды выглядае дабрадушна гасцінным. *(У. Калеснік)*

● Спішыце тэкст-апавяданне.

● Якое пытанне можна паставіць да запісанага вамі тэксту?

**43.** Прачытайце. Вызначце, гэта тэкст-апавяданне ці тэкст-апісанне.

## Паілачка

Вечарам хмары над лесам сабраліся. Маланка бліснула, забухаў цяжкі гром. Адна кропелька ўдарыла па лісточку і скацілася ў сподачак старой сыраежкі. Кропля за кропляй — моцны дождж пайшоў. Сыраежка вадой аж да самых краёчкаў напоўнілася.

Вожык ноччу стаміўся, піць захацеў. Шукаў лужыну ды напаткаў па дарозе старую сыраежку. Напіўся і памчаў далей мышэй лавіць.

Раніцай верабейка памачыў у сыраежцы дзюбку.

Цудоўная паілачка ў лесе з'явілася. *(В. Кастручын)*

- Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі. Падбярыце да іх загалоўкі. Запішыце гэтыя загалоўкі як пункты плана.
- Падрыхтуйцеся да вуснага пераказу тэксту па плане, які вы запісалі.

**44.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце подпісы да іх.



— Якія вы прыгожыя!



— Дзе маляр? Мне патрэбны маляр.



— Чаго ты варона раскрычалася?

— Хачу стаць белай, як гусі.



— Янот, бяры квач і пабялі мяне.

— Добра.




— Хачу ў вашу чараду.



— Ад сваіх адракласся і да чужых не прыбілася.



*Ква́ч* — рус. *малярная кисть, которой красят что-либо (забор, стену и т. д.).*

● Растлумачце, як вы зразумелі словы *Ад сваіх адракласся і да чужых не прыбілася*.

● Якое агульнае пытанне можна паставіць да малюнкаў: *Што здарылася з Варонай?* ці *Якая Варона?*

● Які тэкст (апавяданне ці апісанне) можна скласці па гэтых малюнках? Як вы гэта вызначылі?

**45.** Складзіце (вусна) апавяданне па малюнках з практ. 44.

Раскажыце: 1) чаму і як Варона стала белай; 2) як Гусі сустрэлі Варону; 3) як Варона засталася адна.

- Выберыце загаловак да вашага апавядання.
  1. Белая Варона.
  2. Як Вароне захацелася белай стаць.
  3. Ад сваіх адраклася і да чужых не прыбілася.

**46.** Прачытайце. Падбярыце загаловак да тэксту.

Быў час, калі Красавік самы першы раз прыйшоў на зямлю. І не спадабалася яму пасля зімы пажоўклая трава, шэрае неба, чорная зямля. І вырашыў ён усё-ўсё перафарбаваць.

Узяў Красавік фарбы і пэндзаль і перш-наперш памаляваў неба ў сіні-сіні колер. Затым перамаляваў палі. Дзе зялёнай, дзе жаўтаватай фарбай мазнуў. Лугі вымаляваў у зялёны колер, а па тых лугах-мурагах давай пырскаць то блакітнай, то жоўтай, то белай, то ружовай фарбамі... І якіх толькі красачак не з'вілася на лузе! Аж у вачах мільгаціць! *(К. Каліна)*

- Якое значэнне мае слова *красавік*? Чаму яно пішацца з малой і вялікай літары? Пра якія красачкі гаворыцца ў тэксце?
- Пастаўце пытанні да тэксту і запішыце іх як пункты плана.

● Спішыце другі абзац тэксту. Падкрэсліце прыметнікі. Падрыхтуйцеся да вуснага адказу на пытанне *Як Красавік перафарбаваў зямлю?*



**47.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст-апісанне.

## Суніцы

Ах як пахнуць, як хутка растаюць у роце сало..кія суніцы! Не ведаю смачнейшага ласунку я на све..е. Кожная яга..ка — нібыта чаро..ная кропля. Яна ўвабрала ў сябе і фарбы, і пахі, і нават птуш..ныя спевы на пачатку лета.

З ягаднай с..м'і суніцы паспяваюць першыя. Яны высыпаюць у канцы ч..рвеня. Найлепшы сунічнік — каля даро.. і л..сных сцежак, на прасеках і светлых палянах. Суніцы самі просяцца ў далонь. Але яны ўмеюць хавацца ў траве. Убачы..шы першую яга..ку, адразу пакланіся, а тады шукай яе с..бровак. *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

● Растлумачце, якія літары трэба ўставіць. Спішыце другі абзац тэксту.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Які тэкст называецца тэкстам-апісаннем? Чым ад яго адрозніваецца тэкст-апавяданне?
2. Ці могуць у адным і тым жа тэксце сустрэцца і тэкст-апісанне і тэкст-апавяданне?
3. Якую ролю ў тэксце-апавяданні адыгрывае апісанне?

# СКАЗ

## АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА




У сказе можа быць некалькі дзейнікаў пры адным выказніку або некалькі выказнікаў пры адным дзейніку і некалькі даданых членаў сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне. Такія члены сказа называюцца **аднароднымі.**

**48.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце подпісы да іх. У якім сказе чатыры дзейнікі, у якім — два выказнікі, а ў якіх — тры даданыя члены сказа?



Саша, Каця, Юля і Антось гуляюць у мяч.



Дзяўчынка корміць курэй, гусей, качак.



Дзяўчынка мые і выцірае талеркі, кубкі, міскі.

● Запішыце сказы. Падкрэсліце члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне.

**49.** Прачытайце гумарэску. Як хлопчык «падрыхтаваў» свайго бацьку да непрыемнага паведамлення?

### Маленькі сход

Андрэйка падышоў да бацькі.

— Ты толькі не хвалюйся, тата. **Заўтра пасля ўрокаў у нас будзе маленькі сход вучняў, бацькоў і настаўнікаў.**

— Што значыць «маленькі сход»?

— **Збіраемся я, ты і настаўніца.**

● У выдзеленых сказах знайдзіце члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне і звязаны па сэнсе з адным і тым жа словам.

Члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне і звязаны па сэнсе з адным і тым жа словам, называюцца **аднароднымі.**

**50.** Прачытайце. Якімі членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы? Дакажыце, што гэтыя члены сказа — аднародныя.

### Дождж ык і Гром

На цёплай хмарцы спаў Дождж ык.

**Падкраўся** да яго Гром ды як **гыркнуў,** як **раўнуў! Спалохаўся** Дождж ык, **прачнуўся, заплакаў.** Паліліся слёзы на зямлю.

А людзі кажуць: дождж ідзе.

Умываюцца **поле, луг, лес.** Умываюцца **пшаніца, травы.**

Выплакаўся Дождж ык. Перастаў дождж. *(В. Сухамлінскі)*

Аднароднымі могуць быць:

дзейнікі *(**Ві́хры** і **завеі** часта бываюць ў лютым)*;

выказнікі *(Вясной усё навокал **ажывае, зелянее, прыгажэе**)*;

даданыя члены сказа *(Павольна плылі ў празрыстым паветры **доўгія** і **роўныя** павуцінкі).*

**51.** Прачытайце. У кожным сказе назавіце аднародныя члены сказа. Скажыце, на якія пытанні яны адказваюць.

### Дождж у лесе

Асіны, б..розы гнуцца пад п..рывамі ветру. Сосны і елкі грозна шумя..ь. А ве..ер злуецца, завывае, стогне. Хмары пац..мнелі, насунуліся, паліліся на з..млю цёплым дажджом. Ён напаі.. палі, лугі, л..сы.

Нарэшце выглянула ласкавае, цёплае, веснавое сонейка. *(П. Паўлаў)*

- Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.
- У якіх сказах: а) два дзейнікі і адзін выказнік; б) тры выказнікі і адзін дзейнік; в) тры даданыя члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне, адносяцца да аднаго і таго ж слова.



**52.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах? Растлумачце іх правапіс.

1. Цэлае лета пч..лка працуе, м..док прыпасае. 2. Пажо..клыя лісточкі ціхенька кружыліся ў паветры і апускаліся на зямлю. 3. Мы з табой жывём на вельмі пр..гожай і казачнай з..млі. 4. Кожная пара года дорыць нам свае ка..кі і цуды. 5. Людзі, жывёлы, расліны хвар..юць ад бруднага паветра.

- Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.
- Назавіце аднародныя члены сказа.

**53.** Прачытайце. Пры чытанні ўстаўляйце замест пытанняў аднародныя члены сказа, выкарыстоўваючы словы для даведкі.

1. Полацкі князь Рагвалод меў (я к у ю?) ... і ... дружыну. 2. Кірыла Тураўскі нарадзіўся і жыў у палескім горадзе Тураве. Ён прысвяціў сваё жыццё служэнню (к а м у?) ... і ... . 3. У гісторыі кожнай краіны бываюць (я к і я?) ... , ... часы. 4. Скарына вучыўся (д з е?) у ... , ... , ... . 5. Якуб Колас пісаў для дзяцей (ш т о?) ... , ... , ... .

Словы для даведкі: *вершы, казкі, апавяданні; Богу, людзям; вялікую, моцную; цяжкія, небяспечныя; Беларусі, Польшчы, Італіі.*

- Запішыце сказы, якія ў вас атрымаліся. Падкрэсліце аднародныя члены.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**54.** Прачытайце сказы. Разгледзьце схемы. Адкажыце, якому сказу адпавядае кожная схема.

1. У невялікай вёсцы стаяла хатка. 2. У хатцы жыла старэнькая і нямоглая бабуля. 3. Бабуля мела вялікага, прыгожага і разумнага ката. 4. Яна карміла яго смятанай ды каўбасой. 5. Кот любіў бабулю, суцяшаў яе.

1. Х т о? ш т о р а б і л а? к а г о? ч ы м? д ы ч ы м?

2. Х т о? ш т о р а б і л а? я к о г а? я к о г а? і я к о г а? к а г о?

3. Хто? што рабіў? каго? што рабіў? каго?

4. Дзе? што рабіла? якая? і якая? хто?

5. У якой? дзе? што рабіла? што?

**55.** Прачытайце. Дакажыце, што дадания члены сказа ў наступных сказах не з’яўляюцца аднароднымі.

Вова прыйшоў дадому позна. Ён хадзіў у госці да аднакласніка. Адтуль ён прынёс сястрычцы цукеркі. Дзяўчынка падзякавала брату за гасцінец.

**56.** Прачытайце. Дапоўніце аднародныя члены сказа іншымі словамі па пытаннях.

Жыла на свеце мышка. Вылезла яна (адкуль?) і гуляе (дзе?). За ёю пагнаўся кот. Мышка спалохалася (каго?), уцякла (куды?). Сядзіць мышка (дзе?), калоціцца (ад чаго?). А кот стаіўся (дзе?), чакае (каго?).

● Запішыце тэкст, які ў вас атрымаўся. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.



**57.** Прачытайце загадкі. Адгадайце іх.

1. Я засцілаю дол іглiцай, спрадвеку слаўлюся жывіцай. 2. Да яліны, да сасны доктар прыляцеў

лясны. 3. Маленькі шарык пад лаўкай шарыць, збірае крошкі, баіцца кошкі.



*Жыві́ца* — празрыстая смала на ствалах хвойных дрэў.

● Спішыце. Падкрэсліце аднародныя члены. Пастаўце ад іх пытанні да іншых членаў сказа па ўзоры.

У з о р. *Махнула* (дзеянне) *птушка* *пяром* (ч ы м?), *пакрыла* *ўвесь* *свет* (ш т о?) *крылом* (ч ы м?). (Ноч.)




Пры чытанні сказаў пасля кожнага аднароднага члена мы робім паўзу. Такое вымаўленне называецца **інтанацыяй пералічэння.**

**58.** Прачытайце. Знайдзіце ў вершы аднародныя члены сказа. Дакажыце, што яны з'яўляюцца аднароднымі. Прачытайце іх з інтанацыяй пералічэння.

Скачуць кроплі дажджавыя.
Скачуць кроплі, як жывыя,
па сцяжыне, па дарозе,
па страсе, па агародзе,
па лістах, па траве,
па маёй галаве.

*І. Муравейка*

**59.** Прачытайце выразна, робячы паўзы паміж аднароднымі членамі сказа. Як гэтыя паўзы перадаюцца на пісьме?

Цві..е, красуе наднёманскі луг. У з..лёнай траве растуць лю..ік, смолка, рамонак, званоч..к. За лугам серабрыцца, зіхаціць сонечнымі зайчыкамі рака. Над лугам, над ракой разносяцца галасы людзей, строкат касілак.

Зімой жывёле будзе ўдосталь свежага, духмянага сена. *(Паводле П. Паўлава)*

- Якія члены сказа — галоўныя ці даданыя — з'яўляюцца аднароднымі ў кожным сказе?
- Спішыце першыя два сказы, устаўляючы патрэбныя літары.

Сказы з аднароднымі членамі сказа вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння. На пісьме паміж аднароднымі членамі сказа ставіцца коска: *Оля градкі **даглядала**, іх **палола**, **палівала**.*

**60.** Прачытайце тэкст. Выразна вымаўляйце аднародныя члены сказа.

Цяжка дыхае Вялікі акіян. Хвалі равуць кідаюцца на скалы распыляюцца ў пырскі з незадаволеным гулам адыходзяць назад. Стагоддзі тысячагоддзі кідаецца акіян на скалы. Яны цвёрда стаяць на варце не пускаюць хвалі ў сярэдзіну. Але з цягам часу нават

вялізныя моцныя трывалыя скалы размываюцца рушацца ў ваду. *(Паводле Я. Маўра)*

● Дайце тэксту загаловак. Спішыце, пастаўце знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.

**61.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце словы і словазлучэнні.




Прыехаў на гастролі, знакаміты дрэсіроўшчык ільвоў, тыграў, у наш горад.



Школьнікі, дарослыя, прыйшлі, маленькія дзеці, у цырк.



Выконвалі каманды, скакалі, драпежнікі, праз запаленае кола.



Акрабаты, наезнікі на конях, выступалі, пасля антракту, жанглёры.



Жартаваў клоўн, паказваў фокусы паміж выступленнямі.



Пасля спектакля купля- лі, паралонавыя насы, вушы, у фае, каляровыя каўпакі.

● Карыстаючыся словамі і словазлучэннямі, складзіце сказ да кожнага малюнка, каб у вас атрымалася апавяданне.

● Са складзеных сказаў выберыце тры: а) з аднароднымі дзейнікамі; б) з аднароднымі выказнікамі; в) з аднароднымі даданымі членамі сказа. Запішыце іх.



**62.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

Як хораша ў вёсцы летам! Каля ганка цвітуць настурц..і ляўкоі. У са..е ўжо наліваюцца сокам чырв..неюць вішні. **На градах спеюць агуркі памідоры гарох боб.** Але больш за ўсё Ясь любі..ь лес луг поле рачулку.

● У выдзеленым сказе падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказа.

## СЛОВЫ, ЯКІЯ ЗЛУЧАЮЦЬ АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА




У аднародных членаў сказа ёсць словы-памочнікі, якія іх злучаюць. Гэта словы ***і, а, але***. Яны дапамагаюць зразумець сэнс сказа.

**63.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце сказы, у якіх «працуюць» словы ***і, а, але.*** Што гэтыя словы расказваюць пра сябе?

Жылі-былі ў лесе воўк, лісічка 

зайчык.

— Я працую ў тых сказах, дзе ёсць пералічэнне. У маўленні мяне ўжываюць часцей за любое іншае слова.

Хмарка крылаў не мае, 

лятае.

Месяц свеціць, 

не грэе.

— Мы дапамагаем зразумець сэнс сказа і выражаем супрацьпастаўленне.

● Для чаго ў сказах выкарыстоўваюць словы ***і, а, але***? Прывядзіце прыклады.

**64.** Прачытайце загадкі. Адгадайце іх.

1. Што мы не бачым, але чуем?
2. Яна вечарам нараджаецца, ноч жыве, а раніцай памірае.
3. Напіўся, наеўся, на агонь усеўся, кашу зварыў і нас накарміў.
4. Пад соснамі, пад ёлкамі ляжыць клубок з іголкамі.
5. Ён не стукне, не грукне, а ў акно ўвойдзе.
6. Хто капялюш носіць, але галавы не мае?

Словы для даведкі: *грыб, гаршчок, дзень, рэха, вожык, раса.*

● Назавіце ў кожным сказе аднародныя члены і словы, якія іх звязваюць. Што выражаюць гэтыя словы — параўнанне ці супрацьпастаўленне?

**65.** Разгледзьце малюнкі.







● Якія словы «сябруюць» з коскай? Якія словы «адмаўляюцца» ад яе дапамогі?

Аднародныя члены сказа могуць быць звязаны паміж сабой з дапамогай слоў ***і, а, але***.

Перад словам ***і***, калі яно ўжываецца ў сказе адзін раз, коска не ставіцца: *Вясна прыносіць нам ласкавае сонейка, ручайкі* ***і*** *пралескі*.

Перад словамі ***а, але*** заўсёды ставіцца коска: *Ласкавы ветрык прабег па зямлі*, ***а*** *потым падзьмуў смялей. Пайшоў дробны*, ***але*** *спорны дождж*.

**66.** Прачытайце ўрыўкі з вершаў. Назавіце аднародныя члены сказа і словы-памочнікі паміж імі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Град грукоча і грыміць,
па палях, гарах шуміць.

*У. Мазго*

*грыме́ць*

На мядзведзя мы напалі,
але самі ж уцякалі.

*А. Бадак*

Расці, дрэўца, усім на дзіва
не па днях, а па гадзінах.

*І. Муравейка*

**67.** Прачытайце, замест кропак стаўце патрэбнае слова — ***і, а, але***. Адгадайце загадкі.

1. Два браты ў ваду глядзяць ... разам не сыходзяцца.
2. Ляцяць птушкі без крылаў ... садзяцца без ног.
3. Стаіць дзед над вадой ... ківае барадой.
4. Па саломе ходзіць ... не шастае.
5. Цякло, цякло ... схавалася пад шкло.
6. Што нас корміць ... есці не просіць?



*Ша́стаць* — шалясцець, шамацець.

Словы для даведкі: *зямля, сонечны прамень, сняжынкі, берагі ракі, рэчка пад ільдом, чарот.*

- У якіх сказах перад словам-памочнікам трэба паставіць коску?
- Спішыце першыя тры загадкі. Падкрэсліце словы-памочнікі.



**68.** Прачытайце сказы. Пра якія казкі яны нагадваюць? Якія знакі прыпынку прапушчаны ў сказах?

1. Прыйшла лісіца ў зайкаву хатку выгнала зайку і ў яго хатцы засталася. 2. Аднаго разу знайшла курачка каля плота пшанічны каласок узрадавалася і засакатала на ўвесь двор. 3. Шчыра служыў сабака свайму гаспадару але праз некаторы час састарэў. 4. Пойдзем мы да Івана і выпрасім тую Свінку — Залатую Шчацінку.

- Спішыце сказы, ставячы, дзе трэба, коскі.

**69.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.



1. Што свеці..ь грэе вес..ліць ззяе і ўсю з..млю ажыўляе?

2. Цёплым летам і зімой мае іголачкі са мной.





3. Яна сваё дзі..я не забыла і чужых дзя..ей малачком напаіла.

● Назавіце ў сказах аднародныя члены. Дзе трэба паставіць коскі?

● Спішыце сказы-загадкі разам з адгадкамі. Устаўце прапушчаныя літары.

**70.** Прачытайце сказы. Пастаўце іх у такім парадку, каб атрымаўся тэкст. Дайце яму загаловак. Запішыце тэкст.

1. Навошта гаспадары зімой абвязваюць садовыя дрэўцы яловымі лапкамі?

2. Гэты майстар драць кару мае два вялікія і вострыя зубы.

3. Так яны ахоўваюць яблыні, ігрушы, слівы, вішні ад зайца.

4. Імі ён імгненна сцярэбіць морквіну і качан капусты.

5. А зімою скача ён да вёскі і ласуецца салодкай карою маладзенькіх яблынь. *(Паводле У. Ягоўдзіка)*

● Назавіце сказы: а) з аднароднымі выказнікамі; б) з аднароднымі даданымі членамі сказа, якія адказваюць на пытанне я к і я?.

**71.** Прачытайце верш. Якія члены сказа з'яўляюцца аднароднымі? Якія літары трэба ўставіць замест кропак?

### Вячэрнія хмаркі

Праплывай..е ж, хмаркі,
вы над родным краем,
над с..лянскім полем,
над з..лёным гаем.

*Я. Колас*

● Вывучыце верш на памяць. Запішыце яго па памяці.

**72.** Прачытайце тэкст. Вызначце, гэта тэкст-апавяданне ці тэкст-апісанне.

Вавёркі кормяцца арэхамі ягадамі гр**ы**бамі. Летам і восе**нн**ю вавёркі рыхтуюць сабе запасы на зіму.

Вы ідзяце па лесе і раптам бачыце апеньку на дрэве. Як яна трапіла сюды? Гэта робяць вавёркі. Грыбы сохнуць на паветры а зімой спатрэб**я**цца гаспадыні.

Хавае вавёрка свае запасы **ў** дупле апалых лісцях і ў зямлі. Яна выкапае ямку паложыць туды свой харч і закапае яго. *(П. Паўлаў)*

- Выпішыце сказы з аднароднымі членамі. Пастаўце, дзе трэба, коскі.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



**73.** Прачытайце. Са слоў складзіце сказы і запішыце іх. Падкрэсліце словы ***і, а, але***.

1. Мы, паветра, яго, адчуваем, не бачым, але.
2. У нядзелю, звычайна, ходзяць, у госці, гуляюць, людзі, і.
3. Сняжынка, на каўняры, паляжала, трошкі, раптам, знікла, але.

**74.** Прачытайце верш. Растлумачце правапіс прапушчаных літар. Які знак прыпынку трэба паставіць у вершы?

### Усход сонца

На ўсхо..е неба грае
пералі..ным блескам
сыпле зол..та над гаем
і над пер..ескам.

*Я. Колас*

 

● Назавіце аднародныя члены сказа. Растлумачце, чаму паміж імі ставіцца або не ставіцца коска.

● Спішыце верш, устаўце патрэбныя літары і знак прыпынку.

● Назавіце ў вершы словы з прыстаўкамі.

**75.** Разгледзьце малюнкі. Дапоўніце па іх сказы з аднароднымі членамі.



Максім намаляваў ..., ..., ... і ... .



Іра купіла ..., ..., ... і ... .



У садзе паспелі ..., ..., ... .



На стале ляжаць ..., ..., ..., ... і ... .

● Запішыце сказы. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

**76.** Прачытайце. У якіх выпадках паміж аднароднымі членамі сказа патрэбна коска?

Над возерам л..ціць чайка і выгл..дае ў ва..е здабычу. Веерам распус..іла яна кароткі хвост і вострымі крыламі, як сярпамі, расс..кае паветра. Над блакітным прасторам пануе перадвячэрняе сонца адлюстроўваецца ў ва..е лашчыць хвалі прам..ня́мі.

У небе з'явіўся каршун. Трывога! Чайка апусцілася на ваду і пагойдваецца на ёй хаваецца сярод хваляў. Каршун знік за цёмнай сцяною лесу. Чайка супакоілася і зноў узнялася ў паветра. (*Паводле В. Вольскага*)

- Спішыце першы абзац тэксту. Устаўце прапушчаныя літары і коскі.
- Падкрэсліце ў кожным сказе галоўныя члены.

*уні́зе*

**77.** Са слоў і словазлучэнняў складзіце сказы. Ужывайце злучнік ***і*** для сувязі аднародных членаў сказа.

1. Чалавек, кожны, свайго, народа, павінен ведаць, песні, танцы, паданні, казкі, прыказкі.
2. Ёсць, помнікі, старажытныя будынкі, цэрквы, у Мінску, касцёлы.
3. Народны, майстар, рэчы, з кудзелі, з дрэва, умее выраблящь, цікавыя, з саломы.

- Запішыце сказы, пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.



*Кудзе́ля* — валакно лёну, прыгатаванае для прадзення.



**78.** Прачытайце. Якія знакі прыпынку трэба паставіць у сказах і ў канцы сказаў?

1. Па лесе па ярах глыбокіх булькалі звонка крыніцы_ 2. Чым нас новы год спаткае і парадуе нас чым_ 3. Сыплюцца кроплі часта і дробна_ 4. Колькі зор на небе_ Як блішчаць яны_ 5. Лёгкі ветрык сад калыша гойдае галінкі_ 6. Лес пахне смалою грыбамі_ *(Я. Колас)*



*Яр* — роў, лагчына (рус. *овраг*).

- Спішыце, ставячы патрэбныя знакі прыпынку.

**79.** З кожнага сказа выпішыце дзейнік у спалучэнні з выказнікам. Устаўце прапушчаныя літары. У якіх сказах дзейнік спалучаецца з двума аднароднымі выказнікамі?

### Пралеска і кропля вады

*секу́нда*

На высокай яліне спала сн..жынка. Вось прыгр..-ла сонейка. Сн..жынка растала і праз секунду ўпала на дол кропляй вады. Растаў снег да самай зямлі. Пралеска пад снегам пр..чнулася, убачыла акенца.

Падн..лася пралеска са свайго мяккага ложка і зірнула ў акенца.

Навокал л..жыць снег. На полі гуляе веснавы вец..р. А каля ялінкі пазірае на сонейка блакітная квет..чка. *(Паводле В. Сухамлінскага)*

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з аднароднымі выказнікамі.

**80.** Прачытайце тэкст. Падбярыце да яго загаловак. У якіх выпадках паміж аднароднымі членамі сказа патрэбна коска, у якіх — не?

Аднойчы да мяне зайшоў сн..гавік. Ён вельмі стамі..ся замерз і пакры..ся шэранню. Я прапанавала гос..ю кубач..к чаю. Ён ахвотна згадзі..ся і выпі.. гарачы чай. Раптам мой дзі..ны госць уздыхнуў і растаў.

Засталіся толькі в..лікая лужына сухая моркаўка і сумныя чорныя вугольч..кі. Вось як. *(В. Бажэйка)*



*Ш́эрань* — рус. *иней*.

*ахво́тна*

● Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

**81.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце апорныя словы і словазлучэнні.



коцік, ратаваўся, ад сабакі, ішоў у школу, убачыў, кінуў берэтам



павіс на галінцы, апынуўся ў смешным становішчы, збянтэжана глядзеў, дзядуля з кіёчкам



зразумеў, пашкадаваў, дастаў кіем



пабег з усіх ног, спазніўся, але

● Вусна складзіце па малюнках невялікае апавяданне на тэму «Чаму Стасік спазніўся ў школу». Выкарыстайце ў апавяданні сказы са злучнікамі ***і, але***. Напрыклад: *Стасік рашыў пазабаўляцца перад урокамі **і** кінуў у коціка берэтам. З усіх ног пабег Стасік у школу, **але** ўсё роўна спазніўся.*

● Два складзеныя сказы запішыце.

*бер́эт*

**82.** Прачытайце. Пра якога дзеда гаворыцца ў вершы? Якіх знакаў прыпынку не хапае ў другім слупку?

## Дзед-госць

Ходзіць дзед белабароды
полем, лесам, пералескам,
засцілае рэчкі лёдам,
брыльянцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы
туліць дрэвы лёгкім пухам
крые руні травы лозы
белай воўнаю — кажухам.

*Я. Колас*

- Спішыце другі слупок. Пастаўце, дзе трэба, коскі.



*Рунь* — усходы раслін, якія засяваюцца восенню і зімуюць пад снегам.
*Во́ўна* — авечая шэрсць.



**83.** Прачытайце. Растлумачце, якія літары і знакі прыпынку трэба ўставіць.

## Удод

Берасцянкі драззы зел..нушкі сустракаюцца ў нас усюды. Удода можна ўбачыць не часта. Гэта цудо..-

ная птушка мае дзі..ны пр..гожы і рэдкі гала..ны ўбор. Ён нагадвае веер.

Я с..джу нерухома за кустом ядлоўцу і ўважліва сачу за паво..інамі ўдодаў. Сонца ўжо заходзі..ь але добра асв..тляе кожнае п..ро гэтых птушак. *(Паводле В. Вольскага)*



● Спішыце першы абзац тэксту, устаўляючы патрэбныя літары і знакі прыпынку.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Якія члены сказа называюцца аднароднымі?
2. Прывядзіце прыклады сказаў з аднароднымі дзейнікамі, выказнікамі, даданымі членамі сказа.
3. Назавіце словы-памочнікі, з дапамогай якіх злучаюцца аднародныя члены сказа.
4. Складзіце сказ з аднароднымі членамі, якія злучаюцца словам ***але***.
5. Раскажыце пра знакі прыпынку пры аднародных членах сказа.

# СЛОВА

## КОРАНЬ СЛОВА




Успомніце! Блізкія па сэнсе словы, якія маюць агульную частку, з'яўляюцца **роднаснымі.** Агульная частка роднасных слоў называецца **коранем**. Напрыклад: *пісьмо*, *пісьмовы*, *пісьменнік*.

**84.** Прачытайце. Знайдзіце аднакаранёвыя назоўнікі, выпішыце іх. Якога аднакаранёвага назоўніка тут не хапае? Дапішыце яго. Якога ён роду? У выпісаных словах выдзеліце корань.

Лічыць гуска гусянят  
з паўгадзіны акурат.  
І не злічыць іх ніяк...  
З-пад варот крычыць гусак:  
— Га-га-га — іду да вас,  
падлічу дзяцей ураз.

*Н. Галіноўская*

● Якія яшчэ аднакаранёвыя словы ёсць у гэтым вершы? Назавіце іх.

**85.** Прачытайце. Знайдзіце роднасныя словы. Выпішыце іх і абазначце корань.

Колькі страў можна прыгатаваць з бульбы? Кажуць, больш за сотню. Любімай стравай беларусаў з'яўляюцца дранікі, або бульбянікі, як іх яшчэ зрэдку называюць. Але каб бульбачка трапіла да нас на стол, шмат працуюць бульбаводы, розная бульбаапрацоўчая і бульбанарыхтоўчая тэхніка. Мы ўдзячныя тым, хто вырошчвае гэту смачную і неабходную для нас агародніну.

● Якую яшчэ агародніну, акрамя бульбы, вы ведаеце? Назавіце яе.

**86.** Якія з выдзеленых слоў аднакаранёвыя, якія неаднакаранёвыя? Растлумачце свой адказ.

Чародкай невялічкай
пахаджваюць ля хаты
**індык** з **індычкай**
і **індычаняты.**





**Зачарнеліся чарніцы**
на **чарнічніку** кругом.
Пойдзем раніцай мы з Віцем
тры вядзерцы набяром.

Пакуль неспякотнае
сонца над **полем,**
мы дружна капусту
з сяброўкамі **полем.**

Канюшыне каля плоту
вельмі горача ў спякоту.
Канюшыну **пакашу,**
дам цялушкам **па кашу.**

*М. Пазнякоў*

**87.** Прачытайце. З кожнага рада выпішыце аднакаранёвыя словы. Абазначце корань.

Вада, вадзяны, вадзіца, вадзіцель.
Верх, верш, верхні, верхам.
Вечарам, вечар, вечны, вечарэць.
Вугал, вугаль, вугальны, вугольчык.

● Растлумачце, чаму не ўсе словы ў кожным радзе аднакаранёвыя.

**88.** Спішыце. Выдзеліце корань.

Каса, кашу, касец, касіць, косіць.
Насіць, нашу, носіць, прынесці.
Вазіць, везці, возіць, прывёз.

● Растлумачце напісанне і вымаўленне розных галосных і зычных у адным і тым жа корані.

**89.** Прачытайце. Растлумачце наступныя словы з дапамогай аднакаранёвых.

У з о р. *Грыбнік — чалавек, які збірае грыбы.*

Падснежнік, гадзіннік, халадзільнік, яблычны (сок), кніжная (шафа), летні (дзень), святлець, чырванець.

- Запішыце словы. Выдзеліце корань.



**90.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы. Падбярыце да іх аднакаранёвыя словы. Абазначце корань.

У з о р. *(На) узлеску — лес, лясок.*

Прыгрэла сонейка  
**на ўзлеску,**  
**птушыны** спеў  
чуваць здаля...

Стаіць  
і слухае **пралеска,**  
як ціха  
**дыхае зямля.**

*А. Дзержынскі*



## ПРЫСТАЎКА. СУФІКС




Успомніце! Частка слова, якая стаіць перад коранем, называецца **прыстаўкай.** Прыстаўка служыць для ўтварэння слоў з новым значэннем: *пісаць* — *напісаць*, *дапісаць*, *перапісаць*.

**91.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы і абазначце ў іх прыстаўкі.

**Нарадзіўся** Новы Год, стаў расці і разбірацца, што да чаго. Бачыць, на свеце **непарадкі** вялікія. Зіма **запанавала:** усюды снягі **залягаюць**, маразы трашчаць, вуліцы снегам **засыпаны.** Сонейка на такія парадкі глядзець не хоча. **Выбяжыць** на неба і ўцякае дамоў.

Стаў Год думаць, як яму паступіць. Паклікаў Вясну. Вясна Зіму прагнала, снягі **размыла**, лёд **растапіла.** Вятры сталі ласкавыя, толькі зрэдку **забунтуюць, зашумяць, запыляць.** А як Вясна іх схопіць за чуб, кінуцца ў плач, і **пальюцца** слёзы буйным дажджом. **Паплачуць** ды і сціхнуць і яшчэ лепш Вясне памагаюць. Сонейка **выходзіць** на неба ва ўсёй сваёй красе і рэдка хаваецца. *(Паводле У. Дубоўкі)*

- У якіх словах прыстаўкі абазначаюць пачатак дзеяння?
- У якіх сказах ёсць аднародныя члены? Назавіце іх.

**92.** Да наступных слоў падбярыце аднакаранёвыя словы з рознымі прыстаўкамі. Запішыце, абазначце прыстаўкі.

У з о р. *Чытаць — пачытаць, прачытаць, дачытаць, перачытаць.*

Несці, пісаць, бегчы, ехаць, ляцець, лавіць, круціць, мыць.

● На прыкладзе любых з утвораных вамі слоў растлумачце, як прыстаўка мяняе значэнне слова.

**93.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Выдзеліце прыстаўкі.

А..гарадзіць, па..бегчы, на..будаваць, пера..-навагодні, а..вучыцца, а..служыць, па..танцоўваць, пера..святочны, на..пілаваць, па..рэзаць, а..трэсці, пра..казаць.

● Растлумачце напісанне ўстаўленых літар.

**94.** Спішыце. Устаўце літары ***з*** або ***с***. Выдзеліце корань і прыстаўку, калі яна ёсць.

..даровы, ..божжа, ..варым (бульбу), ..вежы, ..камянелы, ..вярыны, ..косяць (траву), ..грабуць (сена), ..сякуць (дрэва), ..пішу (тэкст), ..порт, ..пячом (пірог).

● Растлумачце правапіс прыставак ***з-***, ***с-***.




**Успомніце!** Частка слова, якая знаходзіцца пасля кораня перад канчаткам, называецца **суфіксам:** *школа — школьны, лета — летні.*

**95.** Прачытайце. З выдзеленых слоў запішыце па ўзоры тыя, у якіх ёсць суфікс. Абазначце яго. Выдзеліце корань. Побач запішыце аднакаранёвыя словы без гэтых суфіксаў.



Прыпыніліся ля **вёскі**
тры зялёныя **бярозкі.**
На лісточак з-пад **алоўка**
лезе божая **кароўка,**

а другая — на **галінцы,**
кропкі-зорачкі на **спінцы.**
І мастачка тут, за вёскай,
нас чакае пад бярозкай.

*М. Сазончык*

У з о р. *(Галінцы) галінка — галіна.*

**96.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

У вершы М. Пазнякова «Поні» ёсць такія радкі:

*Я сягоння бачыў поні —*
*так малы завецца конік.*

А як завецца малы слон, кот, певень, бусел, казёл, заяц, журавель, дзяцел, камар, карась?

● Запішыце адказы па ўзоры. Выдзеліце суфікс.

Узор. *Конь — конік.*

● Перакладзіце слова *кузнечик* на беларускую мову. Ці ёсць у рускім і ў перакладзеным вамі беларускім слове суфікс? Растлумачце свой адказ.



**97.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы. Абазначце ў іх суфікс.

Перад вачыма Колі, нібы наяву, паўстала **ліпка.** Тая самая ліпка, якую ён мінулай восенню пасадзіў насупраць акон школы. А побач з ёю — **бярозка, клёнік** і іншыя маладыя **дрэўцы** абапал тратуара. Коля быццам бачыць, як дрыжаць на **ветрыку** іх першыя **лісцікі,** як гойдаюцца **галінкі.** У думках ён ужо далёка адсюль, на беразе Дняпра. *(Паводле Г. Шыловіча)*

● Якое значэнне надаюць словам выдзеленыя вамі суфіксы?

● Раскажыце, што вы ведаеце пра Днепр або іншую раку. Дзе яна знаходзіцца? Што ёсць на яе берагах?

# АСНОВА СЛОВА. КАНЧАТАК

**98.** Прачытайце сказы. Запішыце. Ва ўсіх сказах выдзеліце зменную частку слова *дрэўца* — канчатак.

Міхась пасадзіў **дрэўца. За дрэўцам** ён назіраў кожны дзень. Заўважаў, як **на дрэўцы** выраслі лісцікі. **К дрэўцу** Міхась прыходзіў кожны дзень.




Успомніце! Зменная частка слова называецца **канчаткам:** стол[ ], стал[а], стал[у], стал[ом], на стал[е]. Канчатак служыць для сувязі слоў у сказе: *На стале ляжыць мая любімая кніга. Вечарам я прачытаю сваю любімую кнігу.*

**99.** Прачытайце. Якая частка слова не мяняе яго значэння?

| | |
|---|---|
| Рыб[а] | Рыбак[ ] |
| рыб[ы] | рыбак[а] |
| рыб[е] | рыбак[у] |
| рыб[ай] | рыбак[ом] |

- Ці мяняецца значэнне кожнага з гэтых слоў пры змяненні іх формы?
- Ці зменіцца значэнне слова *рыбак*, калі аддзяліць ад яго канчатак?
- Ці зменіцца значэнне слова *рыбак*, калі аддзяліць ад яго суфікс?




Асноўнае значэнне слова заключана ў яго частцы без канчатка.

**Аснова слова** — гэта частка слова без канчатка. (Канчатак можа быць і нулявым). Яна абазначаецца знакам ⌞___⌟ : *рыб* *а*, *рыб* *ы*, *рыбак* ☐, *рыбак* *а*.

Аснова з'яўляецца агульнай для ўсіх форм слова: *школьны*, *школьнага*, *школьнаму*, *школьныя*, *школьных*, *школьным* і інш.

**100.** Прачытайце.

**Новы падручнік** ляжаў на стале.
**Новаму падручніку** вучні рады.
**У новым падручніку** шмат цікавых заданняў.

● Запішыце выдзеленыя словы, абазначце ў іх канчатак і аснову.

**101.** Запішыце словы. Выдзеліце ў іх канчатак і аснову, вусна змяняючы словы.

Ляснік, кніжны, карысны, машына, акно, папера, папяровы, пісьмо, камп'ютар.

● Назавіце словы з нулявым канчаткам. Успомніце, як ён вызначаецца.




Каб знайсці аснову слова, трэба змяніць слова, вызначыць канчатак і абазначыць аснову: *трав*[*а*], *трав*[*ы*], *трав*[*е*], *трав*[*у*], *трав*[*ой*], (*аб*) *трав*[*е*].

**102.** У наступных словах выдзеліце канчатак, аснову і корань.

**Ліст, лісток, новы, навіна, цёплы, цеплыня, вясёлы, весялосць, зялёны, зелень.**

- Растлумачце напісанне выдзеленых літар.



**103.** Прачытайце. Выпішыце спачатку выдзеленыя словы, у якіх канчатак выражаны літарамі, а потым — з нулявым канчаткам. Абазначце канчатак і аснову.

**Народная памяць**
**адважных** запомніць —
іх **ворагі волю**
зламаць не змаглі.
Стаіць **манумент** —
**Брэсцкай крэпасці помнік**
героям **вялікай**
**любімай зямлі!**

*А. Дзеружынскі*

- Што вы ведаеце пра Брэсцкую крэпасць? Падрыхтуйце пра яе вусны расказ для адказу ў класе.

**104.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы, абазначце ў іх канчатак і аснову.

Ты **расы́**
самай **чыстай** чысцей,
ты **крыніц**
самых **звонкіх** званчэй,
наша **простае,**
**шчырае слова** —
**беларуская родная мова.**

*А. Дзеружынскі*

● У якім слове канчатак нулявы? Змяніце гэта слова так, каб у ім з'явіўся канчатак.

**105.** Спішыце. Выдзеліце канчатак, аснову, корань і прыстаўку ў тых словах, дзе яны ёсць.

Пабяжым, парад, падару, падбялю, падвал, падзякуем, падкіну, нажніцы, назоўнік.

**106.** Выдзеліце канчатак, аснову, корань і суфікс у тых словах, дзе яны ёсць.

Зімовы, новы, ружовы, суровы, бярозавы, пісьмовы, слановы, здаровы, мядовы, кляновы, садовы, дваровы.

**107.** Прыдумайце пяць прыкладаў і запішыце па ўзоры. У прыметніку выдзеліце аснову, у дзеяслове — суфікс.

У з о р. *Станавіцца чырвоным — чырванець.*

**108.** Ад наступных слоў утварыце прыметнікі. Запішыце па ўзоры.

У з о р. *Сыры — сыраваты.*

Белы, сіні, жоўты, кіслы, рыжы, мяккі, доўгі, мокры, цёплы, горкі.

● Растлумачце змяненне некаторых галосных у корані слоў пры ўтварэнні новых прыметнікаў.



**109.** Ад наступных слоў утварыце назоўнікі. Запішыце па ўзоры: *гітара — гітарыст — гітарыстка.*

Гармонік, баян, цымбалы, гумар, штанга, трактар, тэніс, футбол.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое канчатак слова? Для чаго ён служыць? Як вызначаецца?
2. Што такое аснова слова?
3. Што такое корань слова?
4. Што такое прыстаўка?
5. Якія прыстаўкі пішуцца нязменна, незалежна ад вымаўлення?
6. Ад чаго залежыць напісанне ***з, с*** у прыстаўках?
7. Што такое суфікс?

# ЧАСЦІНЫ МОВЫ

## НАЗОЎНІК




Успомніце, што вы ведаеце пра назоўнік.

Назоўнікі абазначаюць прадметы і адказваюць на пытанне **к т о?** або **ш т о?**. Назоўнікі, якія абазначаюць назвы людзей і жывёл, адказваюць на пытанне **к т о?**. Назоўнікі, якія абазначаюць рэчы, расліны, адзенне і іншыя прадметы, адказваюць на пытанне **ш т о?**.

**110.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі. Пастаўце да іх пытанне к т о? або ш т о?.

### Як Ірынка навучылася вымаўляць *р*

Аднойчы бацька з маленькай Ірынкай прыйшлі ў звярынец. Вось тыгр, воўк, лісіца, заяц, малпа.

У клетках многа птушак: і паўліны, і арлы, і папугаі. У адной з клетак сядзеў папугай, якога звалі Аро. Ён выразна і гучна выкрыкваў сваё імя: «Ар-ро!»

Ірынка разам з папугаем пачала паўтараць: «Ар-ро!» Малая дзяўчынка раней не вымаўляла «р». Спа-

чатку ў яе атрымлівалася не вельмі прыгожае «Авво». Але раптам «р» загучала звонка і чыста. І Ірынка з таго часу ўсе словы з гукам «р» вымаўляе правільна. *(Паводле М. Ягорава)*

- Перакажыце тэкст.
- Выпішыце назоўнікі па групах, як паказана ва ўзоры.

У з о р. *Назвы прадметаў* (ш т о?): *звярынец, ... ;*
*назвы жывых істот* (х т о?):
*а) людзі: бацька, ... ;*
*б) звяры: тыгр, ... ;*
*в) птушкі: паўлін, ... .*

**111.** Прачытайце.

**Там яна**

Там яна, дзе **Прыпяць,** Шчара,
Случ, Бярэзіна, **Дзвіна**,
дзе Князь-возера і Нарач,
Свіцязь светлая, як мара,
і бяздонная без дна.
Там яна, дзе **Тураў**, Полацк —
старажытнейшыя гарады,
Мінск, чый чутны ўсюды голас,
Гомель, Віцебск, Брэст вясёлы,
горад солі малады.

Там яна, дзе з кожным маем
яблынь цвет ляціць з галля.
Палявая, лугавая,
як заўсёды, маладая
**Беларусь** — твая зямля.

*К. Цвірка*

- Растлумачце напісанне слоў з вялікай літары.
- Назвы якіх мясцін з верша вам лепш за ўсё вядомыя? Раскажыце аб гэтых мясцінах.
- Які горад называюць горадам солі? Чаму?
- У выдзеленых словах тэксту вызначце колькасць гукаў і літар.

**112.** Выпішыце з верша «Там яна» асобна: а) назвы гарадоў; б) назвы рэк; в) назвы азёр. Дапішыце да гэтых назваў і тыя, якіх няма ў вершы, але якія вам добра вядомыя.

У з о р. *Гарады: Мінск, ... .*
*Рэкі: Прыпяць, ... .*
*Азёры: Нарач, ... .*

**113.** Прачытайце. Якое слова ў кожным радку лішняе?

1. Мінск, Гомель, Віцебск, магілёўскі.
2. Горад, вуліца, вясковы, вёска.
3. Сасна, бярозавы, елка, дуб.
4. Футбаліст, бегчы, гол, вароты.

***ву́ліца***

5. Ежа, снеданне, абед, вячэраць.
6. Бібліятэка, чытаць, кніга, чытач.

● Назавіце род усіх назоўнікаў.

● Назавіце назоўнік множнага ліку. Ці можна ад яго ўтварыць назоўнік адзіночнага ліку?

● Ад назоўнікаў 2, 3 і 6 радкоў утварыце назоўнікі множнага ліку. Запішыце.

**114.** Як гучаць і пішуцца па-беларуску наступныя імёны. Запішыце іх па-беларуску.

Николай, Григорий, Владимир, Евгений, Елена, Ольга, Анна, Екатерина.

● Успомніце і назавіце іншыя імёны, якія супадаюць і адрозніваюцца ў напісанні ў рускай і беларускай мовах.



**115.** Прачытайце. Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

Дзед Даніла разам з ..нукам Валерыкам гулялі ў садзе. Тут панаваў прыемны халадок. Ціха шч..бяталі птушкі. Валерык уважліва прыгл..даўся да дрэў. На гэтых дрэвах віселі грушы, ябл..кі, слівы. *(Паводле П. Рунца)*

● Вусна адкажыце, якія назоўнікі з’яўляюцца дзейнікамі, якія — даданымі членамі сказа.

## СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ




Адно і тое ж слова мае розныя канчаткі. Гэта неабходна для таго, каб словы ў сказе правільна спалучаліся адно з адным: *Наш новы* ***дом***□ *рабочыя пабудавалі хутка. Мы таксама будзем жыць у гэтым* ***дом[е]. За дом[ам]*** *пасадзілі маладыя дрэўцы.*

**116.** Прачытайце. Ад выдзеленых слоў пастаўце пытанні да назоўніка *камень.*

Ля дарогі **ляжаў** вялікі камень. Каля каменя **любілі гуляць** дзеці. Гэтаму каменю людзі **далі назву** «Асілак». Не кожны хлопчык **мог залезці** на камень — такі вялікі ён быў. За каменем **рос** магутны дуб. Аб гэтых двух асілках — аб камені і дубе — **хадзілі легенды.**

● Запішыце ў слупок спалучэнні выдзеленых слоў са словам *камень* у той форме, у якой яно ўжыта ў тэксце. У дужках запішыце пытанні да слова *камень.*

У з о р. (ш т о?) *Камень ляжаў.*

Змяненне назоўнікаў па пытаннях называецца **змяненнем па склонах, або скланеннем.**

**117.** Прачытайце. Спішыце. Замест кропак устаўце слова *ліса*. Змяняйце канчаткі гэтага слова ў залежнасці ад пытання. Канчаткі абазначце.

(Х т о?) ... — хітры рыжы звер. Хвост (у к а г о?) у ... прыгожы, пушысты. У пошуках ежы (к а м у?) ... прыходзіцца прабягаць дзясяткі кіламетраў. У лесе (к а г о?) ... можна ўбачыць толькі здалёк. У заапарку ж вы можаце стаяць амаль побач (з к і м?) з ... . Многа казак складзена (а б к і м?) аб ... .

**118.** Замест кропак запішыце словы *брат, хвіліна, святло*, змяняючы іх па пытаннях.

(Х т о? ш т о?) брат, хвіліна, святло.
(К а г о? ч а г о?) ..., ..., ... .
(К а м у? ч а м у?) ..., ..., ... .
(К а г о? ш т о?) ..., ..., ... .
(К і м? ч ы м?) ..., ..., ... .
(А б к і м? а б ч ы м?) ..., ..., ... .

**119.** Разгледзьце малюнкі на першым форзацы. Прачытайце, што склоны расказваюць пра сябе. Спішыце і запомніце назвы склонаў і пытанні да іх.

| | |
|---|---|
| **Назоўны** | х т о? ш т о? |
| **Родны** (няма) | к а г о? ч а г о? |
| **Давальны** (даю) | к а м у? ч а м у? |
| **Вінавальны** (бачу) | к а г о? ш т о? |

**Творны** (любуюся) к і м? ч ы м ?
**Месны** (думаю) а б к і м? а б ч ы м ?

- На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў назоўным, родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах?
- Які склон заўсёды ўжываецца без прыназоўніка?
- Чым месны склон адрозніваецца ад усіх астатніх?



**120.** Прачытайце. Ад якіх слоў ставяцца склонавыя пытанні да выдзеленага слова? Запішыце гэтыя словы па ўзоры.

У з о р. *Не ступіць* (з ч а г о?) *з дарожкі.*

### Жоўтая дарожка

Вузкая **дарожка** віецца праз густы лес. **З дарожкі** ўбок не ступіць: гушчар непралазны.

Мінае зялёнае лета, надыходзіць жоўтая восень. Залатым лісцем бярозы засцілаюць **дарожку.** Праходзіш **па дарожцы** і азіраешся, ці не наслядзіў.

Зімой, калі паваліць снег, тонкія елкі і бярозы гнуцца, схіляюцца, а **над дарожкай** з'яўляюцца крыштальна-белыя снежныя аркі, казачна прыгожыя і вельмі крохкія. *(З. Бяспалы)*

- Ці ёсць слова ў першым сказе, ад якога залежыць слова *дарожка*?
- Чаму лета аўтар называе зялёным, а восень — жоўтай?



*Кро́хкія* — рус. *хрупкие.*
*Гушча́р* — рус. *чаща (лесная чаща).*

**121.** Прачытайце памятку, як вызначыць склон назоўніка. Звяртайцеся да яе пры выкананні практыкаванняў.




Каб вызначыць склон назоўніка, трэба:

1) знайсці слова, ад якога гэты назоўнік залежыць;

2) ад гэтага слова паставіць пытанне да назоўніка. Напрыклад: *сябруе* (з к і м?) *з Алесяй* — Т. скл.

Слоў, ад якіх можна паставіць пытанне да назоўніка ў назоўным склоне, няма. Назоўнік у назоўным склоне з'яўляецца дзейнікам: *Настаўніца вучыць нас выразна чытаць.*

**122.** Прачытайце. Спішыце. Пастаўце ў дужках да слова *Алеся* склонавае пытанне, вызначце склон гэтага назоўніка. Падкрэсліце словы (акрамя слоў першага сказа), ад якіх ставяцца пытанні.

Кожны дзень (...) Алеся рыхтуе ўрокі.

Да (...) Алесі часта заходзіць яе сяброўка Насця. Яна дапамагае (...) Алесі рашаць задачы. Насця вельмі паважае (...) Алесю за яе стараннасць, таму і сябруе з (...) Алесяй. Насця часта расказвае сваім бацькам аб (...) Алесі.

● Назавіце ў апошнім сказе дзейнік і выказнік. Пастаўце пытанні да ўсіх дадзеных членаў гэтага сказа.

123. Разгледзьце малюнкі.



● Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце.
1. Што робяць хлопчыкі ў майстэрні?
2. Для каго яны робяць кармушку?
3. Куды хлопчыкі павесілі кармушку?
4. Хто назірае за імі?
5. Куды скача кот?
6. Што атрымалася ў выніку «палявання» ката?

● У запісаных сказах вызначце склон назоўнікаў і абазначце яго літарай зверху.

**124.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя назоўнікі разам з прыназоўнікамі. Абазначце склон назоўнікаў.

Арэшкавая **вёска** месціцца акурат у сярэдзіне міртавага **лесу.** Тут няшмат дамоў, затое **каля** кожнага **дома** ёсць садок **з арэшнікам.** Мясцовыя **жыхары** любяць клапаціцца **аб раслінах.** Яны і **ў садка́х** старанна працуюць, і міртавы **лес** даглядаюць. Мі́рты — дрэвы пяшчотныя, любяць **клопат** і ласку. *(Паводле В. Ларычавай)*

**125.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя назоўнікі разам са словамі, ад якіх яны залежаць. Пастаўце да назоўнікаў пытанні і вызначце склон гэтых назоўнікаў.

Р.

У з о р. *Паказвалася* (з-з а ч а г о?) *з-за гарызонту.*

Самай ранічкай, калі сонца ледзь-ледзь паказвалася **з-за гарызонту,** Алесь пайшоў у лес. Ён абышоў усе грыбныя **мясціны,** але каб хоць адну **лісічку** знайшоў! Не паверыў сваім **вачам** і яшчэ раз прайшоўся па знаёмых сцежках. Але і на гэты раз не ўбачыў ніводнай **лісічкі.** *(Паводле Я. Галубовіча)*



**126.** Прачытайце. Спішыце. Абазначце склон выдзеленых назоўнікаў.

**Мароз** намаляваў **на акне** дзівосныя белыя **ўзоры.** Рассыпаў рознакаляровыя вясёлыя **агеньчыкі.** Шу-

міць **за сцяной вецер**, гойдае прамёрзлыя **галінкі дрэў.** *(Паводле Я. Бяганскай)*

**127.** Прасклaняйце словы *аловак, пісьмо, школа, пісьменнік, вучаніца, мыш.* Запішыце іх разам са склонавымі пытаннямі (гл. форзац 2).

Узор. *Н.* (што?) *аловак*□, *школ*[*а*], *пісьм*[*о*].
*Н.* (хто?) *пісьменнік*□, *вучаніц*[*а*], *мыш*□.

● Ад чаго залежаць канчаткі слоў у адным склоне?

**128.** Спішыце. Пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне адзіночнага ліку. Назавіце склон гэтых назоўнікаў.

Пляцоўка за *(школа)*, партфель *(сястра)*, даць костачку *(сабака)*, убачыць *(сяброўка)*, купіць *(яблык)*, расказваць аб *(падарожжа)*, плаванне *(гусь)*.

**129.** Дапішыце канчаткі назоўнікаў. Вусна вызначце склон гэтых назоўнікаў.

Вавёрк.. скакала з дрэв.. на дрэв.. . Быццам нельга было прыдумаць іншага занятку. Але перад надыход.. халад.. вавёрк.. бралася за работ.. . Рамантавала сваю хатк.. . Высцілала яе цёплым мох.. . Потым з ранку да вечара яна насіла ў сваю хатк.. смачныя лясныя арэх.. . *(Паводле А. Васілевіч)*

**130.** Выпішыце словы ў родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах.

Узор. *Р.: ад дома, ...; Д.: ... .*

Пры доме, к дому, без дома, за дом, для дома, на дом, каля дома, пад дом, над домам, у дом, пра дом, пад домам, за домам, аб доме, перад домам, на доме, у доме, ад дома.

● Прыдумайце і запішыце па аднаму сказу са словам *дом* з прыназоўнікам у родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах.



**131.** Прачытайце. Спішыце, абазначце склон, у якім ужыты назоўнік *слова* ў сказах.

Роднае *слова* мы чуем з маленства. З родным *словам* прыходзяць да нас казкі бабулі. Без роднага *слова* мы сумуем удалечыні ад сваёй краіны. Аб родным *слове* паэты складаюць вершы.

● Прыдумайце сказ са словазлучэннем *роднае слова.*

## Назоўны склон

**132.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў назоўным склоне. Якім членам сказа яны з’яўляюцца?

### Лясная госця

Бяру кошык, іду ў грады і тут жа спыняюся, ураджаны.

Морква знікла!.. І бацвінне з буракоў пазрывана. Капуста пагрызена.

Я рашыў папільнаваць градку.

Вечар быў ціхі, бязветраны. Стаю і праз акенца пазіраю на градкі. Чакаць доўга не давялося. Спярша пачулася лёгенькае патупванне капыткоў. А тады ля градкі морквы з'явілася маладзенькая казуля. Я не стаў яе праганяць. *(Паводле Я. Галубовіча)*

**133.** Складзіце сказы не менш як з трох слоў. Дзейнікамі ў сказах павінны быць наступныя назоўнікі: *восень, зіма, дрэвы, людзі, настаўнік.*

Запішыце. Словы ў назоўным склоне падкрэсліце.

**134.** Прачытайце. Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Назавіце склон назоўнікаў. Абгрунтуйце свой адказ.

**Працаўнікі**

Працуе ц..гнік, працуе м..тор,
працуе цясляр, будаўнік і шахцёр.
Працуюць агонь, па́ра і газ,
працуюць геолаг і в..далаз.

*А. Дзержынскі*

● Вусна перакладзіце слова *па́ра* з верша на рускую мову. Ці супадае род гэтых слоў?



*Цясля́р* — рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны (рус. *плотник*).

**135.** Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Назавіце назоўнікі ў назоўным склоне.

Добрае слов.. лепш за **багац..е.** Глыбокая рака ц..чэ без шуму. Бачыць зоркае вока дал..к.., а **дапытлівы** розум яшчэ далей.

- Выдзеленыя словы падзяліце для пераносу.



*Дапы́тлівы* — які імкнецца ўсё зразумець, набыць новыя веды (рус. *любознательный*).




У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі маюць канчаткі ***-ы***, ***-і***: *азёр*[ы], *воблак*[і] (гл. форзац 2).

**136.** Прачытайце. Перакладзіце на беларускую мову. Запішыце.

1. Деревья, поля, луга, озёра украшают нашу страну. 2. Малина и черника — очень полезные ягоды.



**137.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі ў назоўным склоне.

У Беларусь жураўлі вяртаюцца з цёплых краёў у сярэдзіне сакавіка. Сонца яшчэ моцна не грэе. Раніцай

і ўвечары кусаецца мароз. А жураўлі ўжо пяюць, звіняць над полем і лесам, над вёскамі і гарадамі.

● У кожным сказе назавіце дзейнік. На якое пытанне ён адказвае?

## Родны склон

**138.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту назоўнікі ў родным склоне разам са словамі, ад якіх яны залежаць. Вусна пастаўце склонавае пытанне ад гэтых слоў да назоўніка. Абазначце канчаткі назоўнікаў.

У з о р. *Дзень лістапад[а]*.

Першы дзень лістапада быў празрысты, як сцюдзёная крынічная вада.

Чулася гагатанне гусей. Птушкі гагаталі, нібы спрачаліся, ці правільны кірунак трымае іх важак.

Нечакана з-за лесу насустрач гусям вырваўся самалёт. Ён прайшоў вышэй, над птушкамі. У гусіным страі пасля гэтай сустрэчы нешта здарылася. Птушкі закружыліся на адным месцы, моцна гагочучы.

Неўзабаве ад чарады аддзяліўся важак. Яму ў хвост пачалі прыстройвацца астатнія птушкі. *(З. Бяспалы)*

● Назавіце назоўнікі ў назоўным склоне. Якім членам сказа яны з'яўляюцца.

**139.** Спішыце. Словы ў дужках пастаўце ў родным склоне, перад гэтымі словамі запішыце патрэбнае склонавае пытанне.

У з о р. *Кніга* (к а г о?) *суседа.*

Кніга *(сусед)*, галінка *(елка)*, ліст *(бяроза)*, не было *(сустрэча)*, сшытак *(сястра)*, малюнак *(мастак)*, бутэлька *(вада)*, акуляры *(дзядуля)*, пінжак *(бацька)*.




У сказе да назоўнікаў у родным склоне ставяцца не толькі пытанні к а г о? ч а г о?, але таксама д з е? а д к у л ь?.

З назоўнікамі ў родным склоне могуць ужывацца прыназоўнікі ***ад, з, без, да, для, каля, у, з-за.***

**140.** Спішыце. Устаўце неабходныя прыназоўнікі. Абазначце канчаткі назоўнікаў у родным склоне.

*до́шка*

Машына ад'ехала ... дома. Чалавеку цяжка абыходзіцца ... гадзінніка. Я даеду ... вёскі на аўтобусе. Тата купіў падарунак ... дачкі. Дзяўчынка выйшла ... тралейбуса. Алеся стаіць ... дошкі. ... Міхася ёсць прыгожы сабака. Пушысты кот выйшаў ... дзвярэй.

**141.** З наступных слоў утварыце словазлучэнні. Назоўнік, што ў дужках, пастаўце ў родным склоне. Перад назоўнікамі ў родным склоне запішыце неабходныя прыназоўнікі: ***ад, з, каля, без, да, для, у, з-за.***

Ад'ехаць *(вёска)*, падарунак *(тата)*, падысці *(школа)*, запытаць *(паштальён)*, выйсці *(машына)*, загараць *(возера)*, сумна *(брат)*, пярсцёнак *(золата)*, малако *(унучка)*, выглянуць *(дрэва)*, сустрэцца *(гімназія)*, чакаць *(сябар)*.

***паштальён***

**142.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце.

Лодка подплыла **к берегу.** Мальчик подошёл **к реке.** Маша подошла **к доске.** Машина подъехала **к театру.** Сын позвал отца **к телефону.**

- Вызначце склон выдзеленых слоў у рускай і беларускай мовах.
- У сказах падкрэсліце дзейнік.

**143.** Разгледзьце малюнкі.













● Складзіце сказы па малюнках. Вызначце склон назоўнікаў па ўзоры.

Н. Р.

У з о р. *Дзяўчынка баіцца мышкі.*

Словы для выкарыстання: *баіцца* (к а г о?), *бяжыць* (а д к а г о?), *даганяе* (к а г о?), *ловіць* (к а г о?), *малако* (д л я к а г о?).

**Запомніце:**
па-беларуску — *смяяцца* з к а г о? з ч а г о?;
па-руску — *смеяться* н а д к е м? н а д ч е м?




Большасць назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне множнага ліку маюць канчаткі **-аў (-яў), -оў (-ёў)**: *мор*[*аў*], *геро*[*яў*], *луг*[*оў*], *кра*[*ёў*]. Большасць назоўнікаў жаночага роду з асновай на адзін зычны маюць нулявы канчатак: *бяроз*[ ], *вуліц*[ ].

**144.** Раскрыйце дужкі. Запішыце.

1. Беларусь — краіна *(луг)*, шырокіх *(дарога)*, прыгожых *(рака)*. 2. Мой сябар — аматар *(падарожжа)*. 3. Без *(лякарства)* цяжка вылечыць хваробу. 4. Кожны вучань пасадзіў некалькі *(дрэўца)*. 5. Перад канцэртам прайшло некалькі *(рэпетыцыя)*. 6. Майму брату споўнілася пяць *(месяц)*. 7. Паэт напісаў некалькі новых *(верш)*.

**Запомніце:** *некалькі (пяць) дзён*.



**145.** Прачытайце прыказкі. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі ў родным склоне (_ _ _ _ _) Растлумачце, як вы разумееце прыказкі.

1. У гультая і страха́ цячэ, і печ не пячэ. 2. Дзе няма ведаў, там не будзе смеласці. 3. Ад навукі дужэюць рукі. 4. У розуму тысячы вачэй.

## Давальны склон

**146.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў давальным склоне.

Ганначка прынесла сваёй сяброўцы Волечцы яблыкі. К прыходу бацькоў Волечка паклала чатыры яблыкі на стол і пад кожным на лісточку напісала: тату, маме, брату Юрку, любімаму папугаю.

— А як жа наш папугай даведаецца, дзе яго яблык? — запытаўся Юра. — Ён жа толькі гаворыць, а чытаць не ўмее.

— Ты таксама спачатку толькі гаварыў, а чытаць пасля навучыўся, — пажартавала Волечка.

● Прыдумайце загаловак да гэтага тэксту. Назавіце ў тэксце назоўнік, які ў беларускай мове адносіцца да мужчынскага роду, а ў рускай — да ніякага.




Да назоўнікаў у давальным склоне ставяцца пытанні к а м у? ч а м у?. З назоўнікамі ў давальным склоне можа ўжывацца прыназоўнік ***к***: *спяшаецца к адыходу поезда, зрабіць к пачатку года.*

**147.** Прачытайце. Дапішыце назоўнікі ў давальным склоне.

Радавацца (ч а м у?) сонцу *(лета, снег, зіма)*;
паслаць пісьмо (к а м у?) сябру *(таварыш, настаўнік)*;

паставіць добрую адзнаку (к а м у?) вучню *(Зіна, выдатнік)*;

дзякаваць (к а м у?) бацьку *(брат, урач)*.

**Запомніце:**

па-беларуску — *дзякаваць* (к а м у?) *бацьку*;

па-руску — *благодарить* (к о г о?) *отца*.

**148.** Запішыце па ўзоры. Абазначце канчаткі назоўнікаў у давальным склоне.

У з о р. *Купілі для брата — купілі брат[у].*

Прынеслі для сястры — ... ... ;
машынка для хлопчыка — ... ... ;
паліто для бабулі — ... ... ;
корм для гусі — ... ... .

● У якім склоне ў дадзеных прыкладах ўжываюцца назоўнікі з прыназоўнікам ***для***, у якім — без прыназоўніка ***для?***

**!**

| | |
|---|---|
| **Н.** х т о? | Вас[я], Наташ[а] |
| **Р.** к а г о? | Вас[і], Наташ[ы] |
| **Д.** к а м у? | Вас[ю], Наташ[ы] |
| **В.** к а г о? | Вас[ю], Наташ[у] |
| **Т.** к і м? | Вас[ем], Наташ[ай] |
| **М.** (аб) к і м? | (аб) Вас[ю], (аб) Наташ[ы] |

**149.** Карыстаючыся табліцай на с. 85, запішыце імёны і прозвішчы ў давальным склоне. Абазначце канчаткі.

Вася, Наташа, Міша, Янка, Грыша, Мікола, Каця, Юра, Ракомсін Саша, Ракомсіна Саша, Камароўскі Жэня, Камароўская Жэня.

● Які канчатак у давальным склоне маюць назоўнікі — імёны мужчынскага роду на ***-а (-я)***?

**150.** Прачытайце. Запішыце назоўнікі ў давальным склоне. Звяртайцеся да памяткі 1 на с. 113.

Нага, хмара, Даша, сініца, паляна, муха, лодка, гульня, кропка, нядзеля.

● Якое значэнне мае слова *нядзеля* ў беларускай мове і слова *неделя* — у рускай?



**151.** Спішыце. Знайдзіце назоўнікі ў назоўным, родным, давальным склонах. Абазначце склон гэтых назоўнікаў літарай над словам.

Новая кніга прысвечана герою вайны. Аўтар прыдумаў цікавую назву сваёй кнізе. На пінжаку дзядулі ўнук убачыў шмат медалёў. Малодшаму брату я магу шмат чаго цікавага расказаць. Каля плота ляжаў вялікі рыжы сабака. Пецю было цікава назіраць за рыб-

камі. Настаўніца падзякавала Надзейцы, Грышу, Вову, Наталлі.

● У якіх назоўніках з прыведзеных сказаў не супадае род у беларускай і рускай мовах?

## Вінавальны склон

**152.** Прачытайце. Вызначце склон назоўнікаў.

Бачу (к а г о?) тату, брата; бачу (ш т о?) ручку, гадзіннік; праводзіў (к а г о?) сябра, суседа; праводзіў (ш т о?) поезд; слухаю (к а г о?) настаўніка, Алесю; слухаю (ш т о?) верш, музыку.

● Да якіх назоўнікаў у вінавальным склоне ставіцца пытанне к а г о?, да якіх — ш т о?.

**153.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў вінавальным склоне. Выпішыце іх разам з дзеясловамі, ад якіх ставіцца пытанне да гэтых назоўнікаў.

### Шчасце

Я маляваць буду
ўсіх па парадку.
Вось намалюю
я маму спачатку.
З ёй і сябе я
побач пастаўлю.

Потым я сонейка
зверху дабаўлю.
Выведу ўдалеч
бярозавы шлях,
птушак, жывёл
размяшчу па баках.

*М. Дукса*

**154.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі ў вінавальным склоне.

Нечакана неба зацягнулі цёмныя хмары. Узняўся моцны вецер. Зламаў рабіну каля хаты, вырваў з коранем асіну, растрос стог сена, прыгнуў да зямлі высокую траву. Спыніўся гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Пайшоў моцны дождж.

- Выпішыце з тэксту сказы, якія адпавядаюць схеме ______ (я к і?) ______ .




У сказах да назоўнікаў у вінавальным склоне ставяцца пытанні к а г о? ш т о? к у д ы?.

З назоўнікамі ў вінавальным склоне могуць ужывацца прыназоўнікі ***за***, ***на***, ***пад***, ***у***, ***пра***.

Напрыклад: *спяшацца **на** працу, выйсці **за** дзверы, пісаць **пад** дыктоўку*.

**155.** Запішыце з дзеясловамі назоўнікі ў вінавальным склоне. Пытанні і дужкі апусціце. Абазначце канчаткі назоўнікаў.

Зайсці (з а ш т о? к у д ы?) (*будынак, бяроза*); пакласці (н а ш т о? к у д ы?) (*ложак, зямля*); падпаўзці (п а д ш т о? к у д ы?) (*плот, машына*); перабегчы (п р а з ш т о? к у д ы?) (*вуліца, мост*);

унесці (у ш т о? к у д ы?) *(кватэра, хлеў)*; расказаць (п р а ш т о?) *(сустрэча, лес, возера)*; расказаць (п р а к а г о?) *(сяброўка, вожык, медзведзяня)*.

*дэлега́цыя*

У з о р. *Сустракаць дэлегацы* [ю].

● Ці аднолькавае значэнне маюць беларускае слова *ўне́сці* і рускае *унести́*?

**156.** Прачытайце. Вусна вызначце склон выдзеленых назоўнікаў.

1. **Сшыткі** ляжаць на стале. Пакладзі кнігу на **сшыткі**. 2. **Поезд** прыбывае вельмі рана. Мы сустракалі **поезд** з нашымі спартсменамі. 3. Наша **возера** прываблівае многіх турыстаў. Пра **возера** існуе цікавая легенда. 4. Бацькі купілі Алесю новы **партфель.** Новы **партфель** вельмі спадабаўся Алесю.

● У якім склоне выдзеленыя словы з’яўляюцца дзейнікам?
● У якім склоне выдзеленыя словы ўжываюцца без прыназоўніка, у якім — з прыназоўнікам або без прыназоўніка?

Назоўнікі ў назоўным склоне з’яўляюцца дзейнікам, у вінавальным — дададзеным членам сказа.

У назоўным склоне назоўнікі ўжываюцца заўсёды **без прыназоўніка**, у вінавальным — **з прыназоўнікам або без прыназоўніка:** *глядзець тэлевізар, гуляць у шахматы*.




Родны і вінавальны склоны маюць аднолькавае пытанне (к а г о?) і два розныя пытанні (Р. ч а г о? В. ш т о?). Таму пры вызначэнні склону назоўніка, які адказвае на пытанне к а г о?, падбярыце слова, якое б адказвала на пытанне ч а г о? або ш т о?. Напрыклад:

*расказаў* (п р а к а г о?) *пра Міхася;*
(п р а ш т о?) *пра сустрэчу.*

Значыць, назоўнік стаіць у вінавальным склоне.

**157.** Прачытайце. Вызначце склон выдзеленых слоў.

I. У госці да **Міхася** прыйшоў Андрэй. Пра **Міхася** мне расказаў яго сябар Андрэй.

II. Мяч з аўтографам вядомага **футбаліста** знаходзіўся ў музеі. Першы раз гэтага вядомага **футбаліста** мы ўбачылі на нашым стадыёне.

III. У **вучняў** нашага класа толькі добрыя і выдатныя адзнакі. Пра поспехі **вучняў** нашага класа карэспандэнт расказаў па радыё.



**158.** Прачытайце прыказкі. Спішыце. Зверху над назоўнікамі абазначце іх склон.

1. Не за сваю справу не бярыся.
2. У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі.

3. Пад ляжачы камень вада не бяжыць.
4. Гультай за работу — мазоль за руку.

● Падрыхтуйцеся растлумачыць сэнс прыказак.

● Назавіце ў прыказках словы, у якіх у першым складзе перад націскам пішацца ***я***.

## Творны склон

**159.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце назоўнікі ў творным склоне. Пастаўце ў дужках да іх пытанні. Абазначце канчаткі назоўнікаў.

### Мы едзем

На веласіпедзе з дзедам
мы ўдваіх купацца едзем.
Правіць дзед веласіпедам,
я — на раме перад дзедам.
Сустракаюць нас гасцінна
ціхім шолахам яліны.
Каля возера ляснога
абрываецца дарога.

*А. Александровіч*

● Вусна вызначце, у якім склоне ўжыты назоўнікі ў апошнім сказе.

● Падбярыце і запішыце сінонім да слова *абрываецца.*




У сказах да назоўнікаў у творным склоне ставяцца не толькі пытанні к і м? ч ы м?, але таксама д з е? к а л і?.

З назоўнікам у творным склоне могуць ужывацца прыназоўнікі ***над***, ***пад***, ***перад***, ***за***, ***з***: *праляцець над вёскай, бегчы за сабакам, сустрэцца з сябрам.*

**160.** Прачытайце. Запішыце назоўнікі ў творным склоне.

Мікола, старшыня, дзядуля, Янка, Вася, дзядзька, мужчына, Міша.

Запомніце канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду на ***-а (-я)*** у творным склоне:

слуга́ — слуг[о́й], Міко́ла — Міко́л[ам],

старшыня́ — старшын[ёй], Ва́ся — Ва́с[ем].

**161.** Прачытайце. Апусціце дужкі і пастаўце словы ў творным склоне. Сказы запішыце.

1. Над *(лес)* праляцеў самалёт. 2. Алесь вучыцца ў адным класе з *(Вова)*. 3. За *(поле)* пачынаецца лес. 4. Перад *(навальніца)* неба пацямнела. 5. Пад *(крэсла)* спаў кот. 6. Разам з *(тата)* мы хадзілі ў заапарк. 7. Рыгорка з'яўляецца *(выдатнік)* у класе.

**162.** Дапішыце назоўнікі ў творным склоне, карыстаючыся словамі для даведкі.

1. Суп трэба есці (ч ы м?) … . 2. Многія стравы мы ядзім (з ч ы м?) з … . 3. Мой тата працуе (к і м?) … . 4. Лес пачынаўся (з а ч ы м?) за … . 5. Вечарам (п е р а д ч ы м?) перад … я заўсёды чышчу зубы. 6. Птушкі звілі гняздо (п а д ч ы м?) пад … . 7. Вучань схіліўся (н а д ч ы м?) над … . 8. Днём я заўсёды гуляю (з к і м?) з … .

Словы для даведкі: *слесар, лыжка, малако, сабака, падручнік, возера, сон, страха.*

**163.** Прачытайце. Перабудуйце сказы так, каб не змяніўся іх сэнс. Абазначце склон усіх назоўнікаў па ўзоры:

Н. В.
У з о р. *Мастак малюе карціну.*
Н. Т.
*Карціна малюецца мастаком.*

1. Школьнікі саджаюць дрэўцы. 2. Паштальён разносіць газеты. 3. Кампазітар складае музыку да спектакля. 4. Пісьменнік піша казку для дзяцей.




У назоўніках жаночага роду з нулявым канчаткам у творным склоне пішуцца і вымаўляюцца падоўжаныя зычныя (напрыклад, *соль*□ — *соллю*. Не падаўжаюцца зычныя ***б***, ***п***, ***м***, ***в***, ***ф***, ***р***: *глыб'ю*.

**164.** Спішыце. Пастаўце словы ў дужках у творным склоне.

1. За *(печ)* жыла мыш. З гэтай *(мыш)* ніхто не мог справіцца. 2. Гэтай *(ноч)* ярка свецяць зоркі. 3. У апошнія дні перад *(восень)* мы яшчэ купаліся. 4. Пушча здзіўляла сваёй *(глуш)*. 5. Ля клеткі з *(рысь)* заўсёды стаялі дзеці. 6. Пісьменнік ганарыўся сваёй *(аповесць)*. 7. Турысты захапляліся *(шыр і прыгажосць)* нашых палёў.



**165.** Прачытайце. Спішыце.

Дзядуля ганарыўся сваім медалём. Каля крэсла сядзеў сабака з косткай у зубах. Мы ўсёй сям'ёй паехалі на мора. За гуссю ішлі гусяняты. За дарожным пылам не было відаць машыны.

- Абазначце канчаткі назоўнікаў творнага склону.

## Месны склон

**166.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя назоўнікі разам са словамі, ад якіх ставяцца да гэтых назоўнікаў пытанні. Зверху над назоўнікамі абазначце склон.

За акном імжыць дождж, а я мару пра зімовыя канікулы. Хораша будзе **на канікулах!** Катайся **па полі,** толькі рыпіць пад лыжамі снег.

**У полі** ледзь-ледзь ветрыкам павявае. Хлопчыкі і дзяўчынкі тут цэлы дзень бавяцца. Хто **на санках, на каньках,** а хто і так бегае. Весела будзе адпачываць! *(В. Гарбук)*

● Назавіце назоўнікі, якія ўжыты ў тэксце ў назоўным склоне. Якім членам сказа яны з'яўляюцца?

● Назавіце назоўнікі, якія ўжыты ў тэксце ў творным склоне.

**167.** Прыдумайце сказы з наступнымі словазлучэннямі. Запішыце сказы з адным назоўнікам кожнага словазлучэння.

Напісаў аб вёсцы, аб горадзе, аб паходзе;
ляжала на стале, на падлозе, на лаўцы;
ішла па дарозе, па сцежцы, па лесе;
жыве ў доме, у вёсцы, у горадзе;
расце пры дарозе, пры школе, пры доме.

● У якім склоне ўжыты назоўнікі?




У сказах да назоўнікаў у месным склоне ставяцца не толькі пытанні аб кім? аб чым?, але таксама дзе? калі?.

З назоўнікамі ў месным склоне ўжываюцца прыназоўнікі ***аб***, ***на***, ***па***, ***у***, ***пры***.

Напрыклад: *вестка* ***аб*** *перамозе, вітацца* ***пры*** *сустрэчы, іграць* ***на*** *раялі.*

**168.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі ў месным склоне разам са словамі, ад якіх ставіцца пытанне да гэтых назоўнікаў. У назоўніках абазначце канчаткі.

У вершалінах хвоі чуўся шум з ціхім свістам, а сняжынкі імкліва ўзнімаліся ўгару, і, здавалася, ніводная з іх не трапляла на дол. Але гэта толькі здавалася, бо ўсе звярыныя сляды зніклі на вачах.

Нечакана з'явілася вялікая шэрая птушка і села на бярозе. Праз хвіліну з'явілася другая і села на суседняй бярозе. Гэта былі цецярук з цяцеркаю. Цецерукі карміліся: шчыпалі на галінах пупышкі — свой асноўны зімовы ласунак. *(З. Бяспалы)*

- Падбярыце да тэксту загаловак.
- Чаму ў слове *цецярук* перад ***р*** пішацца ***я***, а ў слове *цецерукі* — ***е***?



*Пупы́шка* — рус. *почка.*
*Ласу́нак* — рус. *лакомство.*

**169.** Запішыце па ўзоры.

У з о р. *Деревья — дрэвы, по деревьям — па дрэвах.*

Берега — берагі, классы — класы, рельсы — рэйкі, дороги — дарогі, школы — школы, дома — дамы, тропинки — сцежкі.

**170.** Перакладзіце на беларускую мову. Запішыце першыя два сказы. У перакладах выдзеленых слоў абазначце канчаткі і склон.

1. Медведи умеют быстро лазить **по деревьям.** 2. **По улицам** нашего города ходят автобусы, троллейбусы, трамваи. 3. **По берегам** небольших рек всегда много растительности. 4. Ученики разошлись **по классам.** 5. **По рельсам** бегут поезда.



**171.** Прачытайце. Прыназоўнік ***пра*** замяніце прыназоўнікам ***аб***. Словазлучэнні запішыце.

Узор. *Чытаць пра Беларусь — чытаць аб Беларусі.*

Расказаць пра жыццё, спяваць пра Радзіму, думаць пра канікулы, пісаць пра сяброў, гаварыць пра кнігі.

● Вызначце склон назоўнікаў з прыназоўнікам ***пра*** і склон назоўнікаў з прыназоўнікам ***аб***.

**172.** Карыстаючыся памяткай 1 на с. 113, запішыце словы ў давальным і месным склонах. Звярніце ўвагу на несупадзенне зычных у назоўным і давальным, у назоўным і месным склонах.

Ванна, мука, дарога, кава, муха, дуга, каза, шчака, нага, завіруха.

● Выдзеліце аснову. Абазначце канчаткі.

**173.** Запішыце словы ў давальным і месным склонах (памятка на с. 113). Абазначце канчаткі. Растлумачце іх напісанне.

Хваля, студня, лыжня, сцюжа, шаша, лодка, сустрэча, рыбка, мара, вадзіца, вопратка, конніца, фігура.



*Сту́дня* — рус. *колодец*.

**174.** Дапішыце словы, каб атрымаўся сказ. Абазначце склон назоўнікаў.

Узор. *Вучань* (Н.) *крэйдай* (Т.) *напісаў на дошцы* (М.) *сказ* (В.).

(Хто?) … адышоў ад … .
… заехаў за … .
… пераплыў праз … .
… даў кнігу … .
… праляцеў над … .
… расказаў аб … .
… прыгожа піша ў … .



**175.** Прачытайце. Вусна вызначце склон назоўніка *матылёк.*

## Матылёк

Было гэта напярэдадні зімы. Я адчыніў дзверы ў сенцы і на падлозе ўбачыў матылька. Ад холаду матылёк зусім аслаб і ледзьве варушыў крылцамі.

Я асцярожна падняў матылька з падлогі, прынёс на кухню і паклаў у папяровую каробачку. Цэлую зіму прабыў у мяне на кухні матылёк. А калі са стрэх са звонам пачалі падаць капяжы, матылёк ажыў, заварушыўся і паляцеў насустрач вясне. *(Я. Галубовіч)*

● Спішыце першы абзац тэксту. Абазначце склон назоўнікаў.

## НАЗОЎНІКІ 1, 2, 3-ГА СКЛАНЕННЯЎ

**176.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на розныя канчаткі ў кожным склоне.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. парт[а] | конь[ ] | мор[а] | печ[ ] |
| Р. парт[ы] | кан[я] | мор[а] | печ[ы] |
| Д. парц[е] | кан[ю] | мор[у] | печ[ы] |
| В. парт[у] | кан[я] | мор[а] | печ[ ] |
| Т. парт[ай] | кан[ём] | мор[ам] | печч[у] |
| М. (аб) парц[е] | (аб) кан[і] | (аб) мор[ы] | (аб) печ[ы] |

● Як уплывае род назоўнікаў на іх канчаткі?

**177.** Праскланяйце назоўнікі *вада, поле, ноч*. Выдзеліце канчаткі. Назавіце яшчэ некалькі слоў, якія б скланяліся так, як словы *вада, поле, ноч.*

Розныя назоўнікі скланяюцца па-рознаму, таму іх дзеляць на тры групы — тры скланенні. Назоўнікі кожнага скланення змяняюцца аднолькава.

Да 1-га скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткамі ***-а***, ***-я*** ў назоўным склоне адзіночнага ліку: *парт**а***, *зямл**я***.

**178.** Знайдзіце назоўнікі 1-га скланення. Праскланяйце іх, выдзеліце канчаткі.

Рыба, сшытак, судна, сонца, бяроза.




Каб вызначыць скланенне назоўніка, трэба паставіць яго ў назоўным склоне адзіночнага ліку, вызначыць род і канчатак.

*Кватэр**а*** (ж. р.) — 1-е скл.; *бераг*□ (м. р.) — 2-е скл.; *соль*□ (ж. р.) — 3-е скл.

**179.** Прачытайце. Назавіце назоўнікі 1-га скланення.

Радзіма, радзіма,
мяне нарадзіла
ты ў гэтым цудоўным куточку,
дзе рэчкі, крыніцы
бруяцца з зямліцы
і спеюць ігрушы ў садочку.

*А. Дзеружынскі*

Да 2-га скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку *(конь□)* і ніякага роду з канчаткамі ***-а***, ***-о***, ***-ё***, ***-е*** ў назоўным склоне адзіночнага ліку *(возер[а], акн[о], жыцц[ё], насенн[е])*.

**180.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі 2-га скланення. Абазначце ў іх канчаткі. Назавіце род назоўнікаў.

Пачало світаць. З-за мора выкаціўся залаты шар сонца. Цёмныя хвалі лашчылі бераг, усыпаны гладкімі каменьчыкамі. З комінаў хат на вуліцах цягнуўся лёгкі дымок. *(Г. Васілеўская)*

Да 3-га скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку: *печ*□.

**181.** Прачытайце. Якія назоўнікі адносяцца да 3-га скланення? Растлумачце чаму.

***калекты́ў***

Моцнага пылу, прыгожай гусі, новага стала, шэрай мышы, смачнага яблыка, цікавай аповесці, добрага калектыву.

● Род якіх назоўнікаў не супадае ў рускай і беларускай мовах?



**182.** Раздзяліце назоўнікі на тры групы: 1, 2, 3-га скланенняў. Запішыце.

У з о р. 1-е скл.: нага, … .
2-е скл.: шчасце, … .
3-е скл.: дэталь, … .

Нага, шчасце, дэталь, шынель, машына, машыніст, моладзь, мядзведзь, час, поле, мора, соль, секунда, калектыў.

- Перакладзіце рускае слова *час* на беларускую мову.

## СКЛОНАВЫЯ КАНЧАТКІ НАЗОЎНІКАЎ 1-ГА СКЛАНЕННЯ

**183.** Прачытайце.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. вад[а] | наг[а] | рук[а] | страх[а] |
| Р. вад[ы] | наг[і] | рук[і] | страх[і] |
| Д. вадз[е] | наз[е] | руц[э] | страс[е] |
| В. вад[у] | наг[у] | рук[у] | страх[у] |
| Т. вад[ой] | наг[ой] | рук[ой] | страх[ой] |
| М. (аб) вадз[е] | (аб) наз[е] | (аб) руц[э] | (аб) страс[е] |

- У якіх склонах назоўнікі маюць аднолькавыя канчаткі?
- У якіх склонах адбываецца чаргаванне зычных: ***г, к, х*** пераходзяць у ***з, ц, с***?

● Параўнайце націск у вінавальным склоне беларускіх назоўнікаў *ваду, руку, нагу* з рускімі назоўнікамі *воду, руку, ногу.* Якія вы заўважылі адрозненні?

**184.** Праскланяйце наступныя назоўнікі. Звяртайцеся да памяткі 1 на с. 113.

Трывога, муха, шчака.

**185.** Спішыце. Словы ў дужках пастаўце ў давальным склоне. Карыстайцеся памяткай 1 на с.113.

Ішоў па лесе Дзед Мароз,
з сабою падарункі нёс:
Лісіцам —
Спадніцы,
Зайцам —
Па *(майка)*,
Кожнай *(сініца)* —
*(Сястрыца)* —
Па *(скрыпка)*.

*А. Бадак*

● Назавіце скланенне ўсіх назоўнікаў у вершы.

**186.** Перакладзіце на беларускую мову. Запішыце. Карыстайцеся памяткай 1 на с. 113.

Купаться в реке, стоять на дороге, служить на границе, купить сестре, нарисовать на бумаге, записать на доске, быть в библиотеке.

**Звярніце ўвагу!**

У творным склоне назоўнікі 1-га скланення пад націскам маюць канчаткі ***-о́й (-о́ю), -ёй (-ёю)***: *вясн*|*о́й*| *(-о́ю)*, *зямл*|*ёй*| *(-ёю)*; не пад націскам — ***-ай (-аю), -яй (-яю)***: *пу́шч*|*ай*| *(-аю)*, *во́л*|*яй*| *(-яю)*.

**187.** Вызначце склон назоўнікаў. Устаўце прапушчаныя літары.

Любавацца вярб..й, гуляць з Насц..й, знаходзіцца за сцян..й, плысці за хвал..й, пачаставаць цукерк..й, прыйсці за папер..й, сябраваць з Кац..й.

● Як слова *вярба́* гучыць па-руску?

**188.** Спішыце. Пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне.

1. Ля *(калыска)* дзіцяці сядзела маці. 2. У *(калыска)* ляжала маленькая дзяўчынка. 3. Гараджане любілі катацца ў парку на веласіпедах па *(дарожка)*. 4. Уздоўж гэтай *(дарожка)* раслі бярозкі. 5. З *(песня)* весялей працуецца. 6. Алеся любіла піць чай з *(вафля)*.

● У якім склоне вы ўжылі назоўнікі ў дужках? Да якога склону адносяцца іншыя назоўнікі?



**189.** Спішыце. Над назоўнікамі 1-га скланення літарай абазначце склон.

1. У сваёй хаце і вуглы дапамагаюць. 2. Родная зямля мякчэй любой пярыны. 3. Адна ластаўка вясны не робіць. 4. Дзе няма ахвоты, там няма работы. 5. На чужой старонцы рад сваёй варонцы.

- Ва ўсіх назоўніках абазначце канчатак і аснову.

## СКЛОНАВЫЯ КАНЧАТКІ НАЗОЎНІКАЎ 2-ГА СКЛАНЕННЯ

**190.** Прачытайце.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | стол | мора | хлопчык | вучань |
| Р. | стала | мора | хлопчыка | вучня |
| Д. | сталу | мору | хлопчыку | вучню |
| В. | стол | мора | хлопчыка | вучня |
| Т. | сталом | морам | хлопчыкам | вучнем |
| М. | (аб) стале | (аб) моры | (аб) хлопчыку | (аб) вучню |







- Да якога скланення адносяцца гэтыя назоўнікі?
- Назавіце, у якіх беларускіх словах канчаткі адрозніваюцца ад канчаткаў рускіх слоў *стол, море, мальчик, ученик* у кожным склоне.

**191.** Прачытайце.

*(Няма)* алоўк[а], сшытк[а], сябр[а];
*(няма)* вопыт[у], гераізм[у], космас[у].

- У якім склоне ўжыты гэтыя назоўнікі?

**Звярніце ўвагу!**
Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне могуць мець канчаткі ***-а (-я)*** і ***-у (-ю)***.
Канчатак ***-а (-я)*** маюць назоўнікі, якія абазначаюць:
жывых істот: *акун*[*я*], *сябр*[*а*];
прадметы, якія можна лічыць: *агурк*[*а*], *гадзіннік*[*а*] (*пяць агурк*[*оў*], *гадзіннік*[*аў*]);
назвы арганізацый, геаграфічныя назвы: *універсітэт*[*а*], *завод*[*а*], *Брэст*[*а*], *Мінск*[*а*].
Канчатак ***-у (-ю)*** маюць назоўнікі, якія абазначаюць:
прадметы, якія нельга лічыць: *ча*[*ю*], *цукр*[*у*] (нельга сказаць *пяць цукру*);
з'явы прыроды: *ветру, грому*;
напрамкі ў прасторы: *нізу, краю*.

**192.** Прачытайце. Звярніцеся да памяткі 2 на с. 114 і скажыце, што абазначаюць гэтыя назоўнікі. Дапішыце канчаткі назоўнікаў у родным склоне.

Няма сшытк.., зайц.., бензін.., дождж.., тралейбус.., яблык.., верх.., прастор.., гараж.., трактар.., мёд.. .

**193.** Запішыце назоўнікі ў вінавальным склоне. Выдзеліце канчаткі.

Бачу *(брат, агурок, памочнік, арэх, сход, слон, пясок, вучань, настаўнік, выдатнік)*.

● Якія пытанні ставяцца да гэтых назоўнікаў у вінавальным склоне?

**194.** Прачытайце.

Алеямі зялёнымі,
і ліпамі, і клёнамі,
і паркамі цяністымі
ўпрыгожаны стаіш,
ты рана прачынаешся,
і сонцам умываешся,
і ў будучыню з гордасцю,
наш родны Мінск, глядзіш!

*А. Дзеружынскі*

● Знайдзіце назоўнікі 2-га скланення. Запішыце іх у назоўным склоне адзіночнага ліку і праскланяйце. Звяртайцеся да памяткі 2 на с. 114.

**195.** Раскрыйце дужкі. Запішыце.

Быць на *(возера)*, гуляць у *(парк)*, працаваць у *(агарод)*, ехаць на *(конь)*, расці на *(луг)*, знайсці

ў *(пясок)*, збіраць ураджай у *(поле)*, прайсці па *(бервяно)*.

*бервянó*

● Растлумачце напісанне розных канчаткаў у месным склоне (памятка 2 на с. 114).

**196.** Пастаўце словы ў дужках у патрэбным склоне. Запішыце.

1. У сваім *(край)* як у *(рай)*.
2. З *(мір)* па *(нітка)*, а голаму — сарочка.
3. Хто роднага *(край)* цураецца, той і *(матка)* адцураецца.



*Цурáцца* — рус. *чуждаться, отрекаться, не любить.*

● Растлумачце, як вы разумееце гэтыя выразы.



**197.** Спішыце. Словы ў дужках пастаўце ў месным склоне.

1. Аб сімвалах Беларусі — *(зубр і бусел)* — спяваюць песні. 2. Мой брат служыць на *(флот)*. 3. У *(лес)* мы збіраем ягады і грыбы. 4. Па невялікім *(масточак)* яны прайшлі праз ручай. 5. У *(рукзак)* хлопчыка было ўсё неабходнае для паходу. 6. Аб *(поспех)* нашых спартсменаў напісалі ў газеце.

## СКЛОНАВЫЯ КАНЧАТКІ НАЗОЎНІКАЎ 3-ГА СКЛАНЕННЯ

**198.** Прачытайце.

| | |
|---|---|
| Н. мыш□ | дэталь□ |
| Р. мыш[ы] | дэтал[і] |
| Д. мыш[ы] | дэтал[і] |
| В. мыш□ | дэталь□ |
| Т. мышш[у] | дэталл[ю] |
| М. (аб) мыш[ы] | (аб) дэтал[і] |




● Які канчатак маюць назоўнікі 3-га скланення ў родным, давальным і месным склонах?

● У якіх яшчэ склонах канчаткі супадаюць?

**199.** Прачытайце. Назавіце назоўнікі 3-га скланення.

Над апусцелым полем узлятаюць стайкі шпакоў, як гэта бывае восенню. Зямля дыхае цішынёй, спако-

ем. Усё відаць як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і зубчаты край лесу за гладдзю поля, і бялявы дымок далёка-далёка, дзе праходзіць чыгунка. *(Паводле М. Лынькова)*

- Назавіце назоўнікі: а) 1-га скланення, б) 2-га скланення.

**200.** Складзіце сказы, ужываючы словы ў патрэбным склоне. Запішыце. Звяртайцеся да памяткі 3 на с. 116.

Раней, выпякаць, хлеб, дома, у, печ.
Аб, наша, Беларусь, родная, складаюць, вершы.
Аб, моладзь, наша, краіна, мы, прачытаць, у, кніга.
У, гэта, мясцовасць, прыгожыя, расці, кветкі.
Аповесць, героі, стаць, школьнікі.

**201.** Праскланяйце словы *ноч, далонь, радасць*. Параўнайце творны склон гэтых назоўнікаў у рускай і беларускай мовах. Якія вы заўважылі адрозненні? Звяртайцеся да памяткі 3 на с. 116.

**202.** Спішыце. Пастаўце словы ў дужках у патрэбным склоне.

1. Побач з *(рысь)* у заапарку знаходзіўся тыгр. 2. Мы захапляемся *(шыр)* нашых палёў. 3. Пісьменнік ганарыўся сваёй *(аповесць)*. 4. Мы задаволены добрай тэлефоннай *(сувязь)*. 5. За *(печ)* стаялі лыжы.

**203.** Да якога скланення ў беларускай мове адносяцца назоўнікі *пыл, боль, шынель, цень*? Наступныя спалучэнні слоў перакладзіце на беларускую мову. Запішыце.

Придорожной пылью, с болью воспринимать новость, серой шинелью, под тенью дерева.



**204.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Над выдзеленымі назоўнікамі лічбай абазначце скланенне.

### Твая мова

Ты забыць сваю **мову** не мусіш,
каб **агеньчык** яе не ачах.
Пазнаюць нас, што мы з **Беларус..**,
па гаворц.., па нашых вачах.
Ціха звоніць у полі калоссе,
зоркі свецяцца ў вышын.. .
Наша родная мова прыносіць
столькі ласкі, св..тла, ц..плыні.
**Збажыною** яна каласіцца
і в..сёлкай іскрыцца ў вадзе.
Мова — вечнасц.. нашай крыніца,
ты шануй яе, дружа, штодзень.

*П. Прыходзька*



*Ача́хнуць* — рус. *ослабеть.*
*Вясёлка* — рус. *радуга.*

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое назоўнікі? Што яны абазначаюць?
2. Што такое скланенне назоўнікаў?
3. Якія назоўнікі адносяцца да 1-га скланення?
4. Якія назоўнікі адносяцца да 2-га скланення?
5. Якія назоўнікі адносяцца да 3-га скланення?

## *Памятка 1*

**!** 1. У давальным і месным склонах у назоўніках жаночага роду 1-га скланення замест ***г*** пішацца і вымаўляецца ***з*** *(кніга — кнізе)*, замест ***к — ц*** *(рука — руцэ)*, замест ***х — с*** *(страха — страсе)*.

2. Канчатак назоўніка жаночага роду 1-га скланення ў давальным і месным склонах можа залежаць ад апошняга зычнага асновы.

Канчатак -***е***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***г***, ***х*** або ***цвёрды*** зычны.

Н. кніг[а], страх[а], сцян[а]

Д., М. кніз[е], страс[е], сцян[е]

Канчатак -***э***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***к*** і мае націск на канчатку.

Н. рук[á]  Д., М. руц[э́]

Канчатак -***і***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***мяккі*** зычны.

Н. земл[я]  Д., М. зямл[і]

Канчатак -***ы***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***ж***, ***ш***, ***ч***, ***р***, ***ц***, ***к*** і слова мае ненаціскны канчатак.

Н. са́ж[а], Ма́ш[а], да́ч[а], хма́р[а], палі́ц[а]

Д., М. са́ж[ы], Ма́ш[ы], да́ч[ы], хма́р[ы], палі́ц[ы]

## *Памятка 2*

!

### Канчаткі назоўнікаў 2-га скланення ў месным склоне

**Канчатак *-е***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***цвёрды*** зычны.

Н. стол□, Іван□, гнязд[о]

М. (аб) стал[е], (аб) Іван[е], (аб) гняздз[е]

**Канчатак *-ю***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***мяккі*** зычны і гэтыя назоўнікі абазначаюць людзей.

Н. вучань□

М. (аб) вучн[ю]

**Канчатак *-і***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***мяккі*** зычны і гэтыя назоўнікі не абазначаюць людзей.

Н. салавей□, дзень□, пол[е]

М. (аб) салаў[і], (аб) дн[і], (аб) пол[і]

**Канчатак *-у***

пішацца: 1) калі аснова назоўніка заканчваецца на ***ж, ш, ч, дж, р, ц*** і гэтыя назоўнікі абазначаюць людзей;

Н. чытач□

М. (аб) чытач[у]

2) калі аснова назоўніка заканчваецца на ***г, к, х***:

Н. замок □, Алег □

М. (аб) замк [у], (аб) Алег [у],

але калі ***г, х*** пераходзяць у месным склоне ў ***з, с*** — канчатак ***-е***.

Н. бераг □, верх □

М. (аб) бераз [е], (аб) верс [е]

Канчатак ***-ы***

пішацца, калі аснова назоўніка заканчваецца на ***ж, ш, ч, дж, р, ц*** і гэтыя назоўнікі не абазначаюць людзей.

Н. зубр □, палец □, сэрц [а]

М. (аб) зубр [ы], (аб) пальц [ы], (аб) сэрц [ы]

*Памятка 3*

!

Склонавыя канчаткі назоўнікаў
3-га скланення

Н. □, Р. ***-і*** , Д. ***-і*** , В. □, Т. ***-ю*** , М. ***-і*** .

Гэтыя канчаткі маюць назоўнікі 3-га скланення, калі іх аснова заканчваецца на ***мяккі*** зычны і ***б, л, ў, ф*** (*аповесць*).

Н. □, Р. ***-ы*** , Д. ***-ы*** , В. □, Т. ***-у*** , М. ***-ы*** .

Гэтыя канчаткі маюць назоўнікі 3-га скланення, калі іх аснова заканчваецца на ***ж, ш, ч, р, ц*** (*мыш*).

## ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**Валынец** Таццяна Мікалаеўна
**Ратнікава** Ірына Энгелеўна
**Роўда** Іван Сямёнавіч
**Шуба** Павел Паўлавіч

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Мастак *І. В. Лазерка*
Камп'ютарная вёрстка *І. У. Шутко*
Карэктары *К. В. Шобік, Н. М. Мамчыц*

Падпісана ў друк 03.06.2013. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,78. Ул.-выд. арк. 3,0 + 0,4 форз.
Тыраж 108 160 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП №02330/0150496
ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

## СКЛОНЫ РАСКАЗВАЮЦЬ ПРА СЯБЕ




— Я называю прадмет, які выконвае якое-небудзь дзеянне або мае прымету:

х т о?
***Вучань*** *старанны.*

х т о? ш т о?
***Чмель*** *гудзе.* ***Сонца*** *свеціць.*




— У сказе мяне можна пазнаць з дапамогай слова *няма* (к а г о? ч а г о?), напрыклад:

к а г о? ч а г о?
*няма* ***сястры****, няма* ***ручкі****,*

к а г о?
*сляды* ***зайца****.*




— Разам са мной назоўнікі называюць прадмет, для якога нешта робяць:

к а м у?
*даць* ***брату****,*

ч а м у?
*падарыць* ***школе****.*

Пазнаць мяне дапаможа слова *даваць* (к а м у? ч а м у?).




— Вы пазнаеце мяне, калі падставіце слова *бачу* (к а г о? ш т о?):

к а г о?
*бачу* ***сябра****,*

ш т о?
*убачыць* ***аўтобус****.*




— Пазнаць мяне дапаможа слова *ганаруся* (к і м? ч ы м?):

ч ы м?
*маляваць* ***акварэллю****,*

з к і м?
*гуляць з* ***братам****.*




— Я завуся месным, таму што з маёй дапамогай назоўнікі часта абазначаюць месца:

у ч ы м? д з е?
*шукаць* ***у лесе****,*

н а ч ы м? д з е?
*сядзець* ***на плоце****.*

Я магу называць таго, аб кім гавораць, або тое, аб чым думаюць, спяваюць:

а б ч ы м?
*марыць* ***аб падарожжы****.*

Ад сваіх сяброў-склонаў я адрозніваюся тым, што не магу ўжывацца без прыназоўнікаў.

